НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 8 (797) 27 лютага 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць ш

## Карта багацця Беларусі

Колькі зарабляюць у розных раёнах? Старонка 6.



## Успышкі на сонцы

Якія катастрофы пагражаюць чалавецтву? Старонка 9.



# Залатая шайба

**Чым болей** дзяржаўнай увагі надаецца хакею, тым мізэрнейшымі робяцца вынікі. **Старонка 3.**




**На фота: Кубак прэзідэнта, які ўручаецца пераможцу Чэмпіянату Беларусі па хакеі.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Гучная справа

Цясак з сябрамі выйшаў з турмы

А Дашкевіч з Лобавым працягваюць сядзець. **Старонка 4.**



### Гутарка

«Мужчыну столькі ж гадоў, колькі яго жанчыне»

Шоўмэн Сцебурака пра жыццё, паэзію, сэкс. **Старонка 7.**



### Крымінал

«Адпусцяць, як толькі фірмы выплацяць грошы»

Скандал у беларускім санаторыі ў Сочы. **Старонка 10.**



### Кіно

«Не наша тэма»

Пераможцу «Оскара» — фільм «Аперацыя «Арга» — не пакажуць у Беларусі. **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# На «Еўрабачанне» ад Расіі едзе дзівосная татарка

«У яе **вялікая будучыня**», — мяркуе Анатоль Ярмоленка.

Песня Дзіны Гарыпавай гучыць сучасна, якасна, па-еўрапейску. Музычныя крытыкі з Расіі называюць яе найлепшай маладой вакалісткай. Ці мае яна шанцы на перамогу?

«Тут усё залежыць ад таго, як з ёй папрацуе прадзюсар, — мяркуе спявак Анатоль Ярмоленка. — Гэта вельмі таленавітая дзяўчына. Яна з Казані, вельмі тонка адчувае сваю нацыянальную культуру, у яе спевах чуваць карані. У яе голасе ёсць лёгкасць, палёт. На «Еўрабачанні» галоўнае, каб яна не разгубілася».

Анатоль Ярмоленка бачыў выступы Гарыпавай у Крамлі і «Алімпійскім» — пляцоўкі вялікія і для выканаўцаў «складаныя».

«У яе надзвычайная арганіка голасу, пры гэтым ніякага выпяндрожу, — кажа Ярмоленка. — У прынцыпе, яна на сцэне можа нічога не рабіць — такія флюіды ад яе ідуць. Зараз галоўнае для яе — працаваць, і пры гэтым захаваць сваю ідэнтычнасць. Бо што зрабіла паспяховай Пугачову? Яна заўжды рабіла тое, што лічыла правільным».

**Юрась Ускоў**

**Дзіна Гарыпава**

нарадзілася ў 1991 у Зеленадольску (Татарстан). Пераможца шоу «Голас» на Першым расійскім канале. Прадставіць Расію на «Еўрабачанні-2013» у Швецыі. Спявае на татарскай, расейскай, англійскай, італьянскай, французскай мовах.



## Зарплаты: Беларусь у Еўропе трэцяя з канца

Беларусь уваходзіць **у пяцёрку краін** Еўропы з найменшым сярэднім заробкам.

У студзені 2013 сярэдні заробак у Беларусі склаў 4 368 023 рублі. Гэта 506 даляраў, ці 383 еўра ў эквіваленце. Месяц таму беларусы атрымалі больш, але тое за кошт навагодніх прэмій і надбавак.

Што значацца нашыя 383 еўра ў кантынентальным маштабе? Мерацца лічбамі з Германіяй ці Францыяй было б некарэктна. Наша вагавая катэгорыя — былыя суседзі па сацыялістычным лагеры.

Адрозненне іх ад «капіталістычнай» Еўропы лёгка адсачыць на прыкладзе суседніх Аўстрыі і Венгрыі, мяжа між якімі фактычна падзяляла «еўрапейскі» і «савецкі» лад. Пасля развалу СССР прайшло больш за дваццаць гадоў. Аўстрыйцы штомесяц зарабляюць 2400 еўра, венгры — утрая меней...

З нашчадкаў сацыялістычных краін здзейсніць скачок вышэй за галаву здолела толькі Славенія. Сярэдні заробак у ёй ужо перавысіў 1600 еўра. Астатнія дзяржавы арыентуюцца на ўзровень 1000 еўра.

У нашым рэйтынгу Беларусь займае сярод еўрапейскіх краін трэцяе месца з канца — меншы заробак у Малдове (241 еўра) і ва Украіне (304 еўра). Дзесьці знізу боўтаецца яшчэ і няшчасная Албанія. Аднак афіцыйныя лічбы заробкаў у гэтай краіне папярэдні раз называліся ў... 2010, таму браць іх у разлік было б няслушна.

Прыблізна на адным узроўні з нашай краінай знаходзіцца Балгарыя. У гэтай самай беднай краіне Еўрасаюза ў снежні зараблялі 415 еўра. У студзені лічба крыху зменшыцца і можа зраўняцца з беларускай.

З адваротнага боку спісу знаходзяцца харваты, якія ўсё ж перайшлі мяжу ў 1000 еўра. Падступаецца да яе Чэхія (965), бачныя перспектывы і Расіі. Наш усходні сусед пакрысе перагнаў нават прыбалтыйскія краіны.

Такі вялікі сярэдні заробак — 865 еўра — даюць перадусім Масква і багатыя прыроднымі рэсурсамі рэгіёны. Але некалькі гадоў таму расійцы нават пры высокіх цэнах на нафту істотна адставалі ад цэнтральнаеўрапейскіх краін. Цяпер вырваліся наперад.

**Ягор Марціновіч**




**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

### Сцісла

**Навучанне падаражэе**

Увесну аплата за навучанне ў ВНУ павялічыцца на 8–10%. Пра гэта сказаў міністр адукацыі Сяргей Маскевіч.

**Ніжняя планка тэстаў**

Для таго каб мець магчымасць падаць дакументы ў ВНУ, абітурыенты павінны будуць набраць:

10 балаў па прадметах «Беларуская мова» або «Руская мова»; 15 балаў — па прадметах «Матэматыка», «Фізіка», «Хімія», «Біялогія»; 20 балаў — па прадметах «Гісторыя Беларусі», «Сусветная гісторыя найноўшага часу», «Грамадазнаўства», «Геаграфія», «Замежныя мовы» (англійская, нямецкая, французская, іспанская). І гэта са ста магчымых!

**Апублікаваны фрагмент беларускага катынскага спісу**

Цэнтр Польска-расійскага дыялогу і паразумення апублікаваў частку прозвішчаў з г.зв. беларускага катынскага спісу — забітых пры Сталіну на тэрыторыі Беларусі грамадзян Польшчы — усяго 98 прозвішчаў. У спісе пад №70 фігуруе, верагодна, дзед Зянона Пазняка — Янка Пазняк. Ёсць і шмат іншых арыштаваных у Заходняй Беларусі.

**Рыгору Барадуліну — 78**

Дзень нараджэння народны паэт адзначыў 24 лютага. «Усім, хто павіншаваў мяне з днём нараджэння, дзякуй. Дзякуй вам усім, хто помніў, хто ўспомніў», — падзякаваў Рыгор Іванавіч чытачам сайта nn.by.

**ЗП**

### Рэкамендуем

**«Пад сталом»**

Гумарыстычная праграма ад Мікіты Недаверкава.

**Каханні Караткевіча**

Пра кнігу Дзяніса Марціновіча піша Андрэй Дынько.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

### Самае чытанае на сайце nn.by за 20—26 лютага

1. У Мінску арыштаваны вядомы расійскі неанацыст Максім Марцінкевіч (Цясак)
2. Першая мінская «Мова ці кава» сабрала сто чалавек
3. Унікальная калекцыя гравюраў 1863 знайшлася ў Гродне
4. Яму было 23. Ён не пабачыць свайго сына. Памяці Грыбкова — вечарына
5. Сям'і загінулага джыпера Сцяпана Трубачова трэба дапамога
6. «Пад сталом»: Юры Зісер ідзе ў генпракуроры
7. Снапкоў: Беларусі пагражае рэзкі рост замежнага доўгу і дзвальвацыя
8. Крыніца: Чыноўнікі рыхтуюць указ…
9. Фінансавы падмурак Расіі захістаўся
10. Чалавек у клетцы як знак беларускага правасуддзя

# Залатая шайба

**Чым болей** дзяржаўнай увагі надаецца хакею, тым мізэрнейшымі робяцца вынікі.



Гульні мільянераў на «Мінск-Арэне».

PHOTO.BYMEDIA.NET

У 1990-я ў Беларусі былі чатыры прафесійныя клубы, якія рубіліся з латышамі, украінцамі ва Усходне-Еўрапейскай лізе. Заробкі былі малымі настолькі, што гульцы зборнай аддавалі перавагу такім экзатычным хакейным чэмпіянатам, як Польшча, Данія, нават Іспанія. У любым выпадку гульцы шукалі магчымасць, каб зарабіць, для гэтага ім трэба было прафесійна расці.

Зборная ж стабільна займала месцы ў першай дзясятцы на сусветных першынствах і трапляла на Алімпіяду.

Цяпер патрэбы ехаць за мяжу для хакеістаў няма ніякай. Унутры Беларусі для спартсменаў створаныя проста цяплічныя ўмовы. Напрыклад, бюджэт жлобінскага «Металурга» сувымерны з бюджэтамі вядучых клубаў Германіі. То навошта тады хакеісту ехаць за мяжу, падвяргаць сябе выпрабаванням, яшчэ і мову не ведаеш, калі можна «рубіць капусту» тут.

Можа, і нічога страшнага тут не было, калі б выдаткі адпавядалі ўзроўню хакеістаў і іх вынікам. Але мінскае «Дынама» не трапіла ў плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі, гульцоў для зборнай яно таксама асабліва не падрыхтавала, нацыянальная каманда «аблажалася» на алімпійскай кваліфікацыі. Другі заганны (нават больш значны за першы) факт — айчынны спорт амаль цалкам фінансуецца за кошт дзяржаўнага бюджэту. Гэта значыць, вас з намі.

Прыватных клубаў у краіне зусім няшмат. Футбольнае «Дынама» Юрыя Чыжа — шчаслівы вынятак. «Дарыда» Дзялендзіка, «Савіт» Віталя Ніса, «Партызан» літоўца Уладзіміра Раманава загадалі доўга жыць.

Бюджэт хакейнага «Дынама», паводле звестак газеты «Прессбол», складае 24 мільёны даляраў. Джэф Плат, напрыклад, за 2011 год меў заробку больш за 800 тысяч даляраў, столькі ж зарабляў варатар Андрэй Мезін. Большасць хакеістаў-беларусаў атрымліваюць там каля 300 тысяч, г.зн. 25 тысяч у месяц. Які бюджэтнік, апроч хакеістаў, мае такія грошы? Найлепшы настаўнік краіны? Найлепшы хірург? Генерал? Міністр? Нікому з гэтых людзей і не сніліся даходы, якія мае сярэдненькі хакеіст.

Вы скажаце, у НХЛ людзі атрымліваюць яшчэ больш! Вунь у Міхаіла Грабоўскага ў год выходзіць аж 6 мільёнаў даляраў у «Таронта». І будзеце мець рацыю, але з адным нюансам. Клубы Нацыянальнай хакейнай лігі фінансуюць багатыя людзі, мецэнаты, каманды зарабляюць сабе на жыццё продажам білетаў, гульцоў, сувенірнай прадукцыяй, правам на тэлетрансляцыі. Няўжо канадскі ўрад выдзяляе грошы на «Таронта»? Вядома, не.

Да самаакупнасці ўсім беларускім клубам яшчэ вельмі далёка (выключэннем з'яўляецца БАТЭ за кошт поспехаў у Лізе чэмпіёнаў і ўдалых трансфераў).

Магчыма, адным махам адправіць усе спартыўныя клубы ў вольнае плаванне было б няправільна. Але зменшыць іхнія апетыты, то дакладна. Цягацца з бяздоннымі расійскімі кашалькамі ўсё адно бессэнсоўна.

**Зміцер Панкавец**

### Даслоўна

**«Пазорышча»**

«Я не думаю, што нам трэба ўшчамляць нейкую галіну, у тым ліку спорт, дзесьці ўзяць у спорту і аддаць некаму іншаму. Там не такія вялікія грошы ў параўнанні з тым краінамі, з якімі мы змагаемся і хочам адабраць медалі. Пытанне ў размеркаванні гэтых сродкаў.

«Дынама» (Мінск) — у нас самы багаты клуб, дзе хакеісты зарабляюць прыстойныя грошы. Мне не толькі гаварыць, але і слухаць сорамна пра «Дынама». А тое, што зрабіла хакейная зборная — гэта ні ў якія рамкі не лезе. У бліжэйшы час мы разбярэмся з гэтым. Я проста так глядзець не буду. Калі беларуская каманда не трапляе на Алімпіяду — гэта пазорышча.

У бліжэйшы час мы разбярэмся з заробкамі. Паглядзім, ці трэба нам тое «Дынама» ў КХЛ. У КХЛ праблем дастаткова, вось паглядзіце — заўтра мы ляцім з Мінска ў Хабараўск, Амур, Калыма, Чукотка. Мы ляцім за трыдзевяць зямель гуляць у хакей. Туды заляцелі — двое сутак, назад — двое сутак. Ні трэніровак, ні адпачынку, нічога няма. Чаму б КХЛ не раздзяліць да Урала і пасля Урала. Як зроблена ў НХЛ. А так мы больш перамяшчаемся, дзікія затраты маем на пералёце хакеістаў.

Што рабіць? Я б прапанаваў стварыць Усходне-Еўрапейскую ці проста Еўрапейскую Лігу. У расейцаў было б КХЛ. А еўрапейцам трэба мець сваю лігу. Мы б злёталі ў Берлін, дзве-тры гадзіны, і дома былі б хакеісты, адпачылі.

Ёсць і трэці варыянт. Можа, нам адмовіцца ад КХЛ. Не ўкладваць гэтыя два, два дзясяткі мільёнаў даляраў. А ўкласці іх ва ўласных хакеістаў. У Латвіі адна каманда. А прайгралі мы каму? Славенцам! Там 700 хакеістаў усяго, свайго чэмпіянату няма. Ці ў нашых спартыўных функцыянераў мазгі працаваць не хочуць — замерзлі ці працаваць не хочуць. Пойдуць вуліцы месці.

Спартыўная галіна — гэта гонар любой краіны. Але там трэба пад корань выразаць ненармальныя звычкі. Вам сорамна, а мне — удвая».

**Адказваючы на пытанні журналістаў, Аляксандр Лукашэнка 22 лютага 2013**

**Параўнанне бюджэтаў хакейных клубаў і школ Мінска, Масквы, Філадэльфіі.**

| Горад | Бюджэт мясцовага клуба, млн даляраў | Сярэдні бюджэт мясцовай сярэдняй школы, млн даляраў | У колькі разоў бюджэт клуба большы за школьны |
|---|---|---|---|
| Мінск | 24 | 0,6 (школа на 588 чалавек) | 40 |
| Масква | 35 (Дынама) | 2,09 (школа на 733 чалавекі) | 16,7 |
| Філадэльфія | 92 | 4,1 (школа на 489 чалавек) | 22,4 |

## Вячаслаў Федарэнкаў: **Мы ўвязаліся ў гульні багатых хлопцаў**

Адзін з найбольш уплывовых хакейных аглядальнікаў краіны Вячаслаў Федарэнкаў адказвае на пытанні «Нашай Нівы».

**«Наша Ніва»: Крытыка Лукашэнкі ў адрас «Дынама» справядлівая?**

**Вечаслаў Федарэнкаў:** Гэта наступствы нявыхаду ў плэй-оф. Мне не сорамна было глядзець, асабліва пасля таго, як на трэнерскім мосціку Хейкеля змяніў Андрыеўскі. Кіраўнік краіны сказаў, ці трэба нам «такое» «Дынама» ў КХЛ. Я мяркую, што маецца на ўвазе «такое легіянерскае». Калі ў плэй-оф можна не праходзіць і з шасцю легіянерамі, навошта дванаццаць?

**«НН»: Бюджэт «Дынама» завышаны?**



**ВФ:** Ёсць прыклады, калі каманды з меншым бюджэтам дасягаюць большага — «Леў», «Слован», «Поўначсталь». У рыжскага «Дынама» бюджэт меншы ў паўтара разу. Каманда правалілася сёлета ў КХЛ, але зборная Латвіі выйшла на Алімпіяду. Заробкі дыктуе рынак. Мы ўвязаліся ў гульні багатых хлопцаў. Вядома, па беларускіх мерках — гэта зашмат, але для КХЛ — гэта серадняцкі ўзровень. Мільянераў у «Дынама» больш няма, а яшчэ 2-3 гады таму былі. Вядома, што не ўсе адпрацоўваюць тыя грошы, якія ім плацяць.

**«НН»: Працягваць гонку кашалькоў няма сэнсу?**

**ВФ:** Гэта самазабойча. Такіх грошай у нас усё адно ніколі не будзе.

**«НН»: А як фарміруецца бюджэт іншых каманд КХЛ? Гэта грошы мясцовых органаў улады, спонсараў, алігархаў?**

**ВФ:** Зразумела, што спонсары. У мінскага «Дынама» такім з'яўляецца «Беларуськалій». «Ак Барс» фінансуе «Татнафта», «Авангарду» дапамагае Омская вобласць. Рыжскаму «Дынама» — «Ітэра». У Славакіі і Чэхіі за камандамі таксама стаіць расійскі бізнэс. Бо КХЛ — гэта вялікі палітычны праект. Хіба толькі данецкі «Данбас» можна назваць дэ-юрэ прыватнай камандай, яе фінансуе алігарх Ахметаў.

**«НН»: Выйсці на самаакупнасць рэальна?**

**ВФ:** Не, абсалютна не. Для гэтага трэба, каб білеты каштавалі як у НХЛ — 50—100 даляраў за гульню. Рыжскае «Дынама» марыць толькі пра 50% самаакупнасці.

**«НН»: КХЛ беларускаму хакею дае больш карысці ці шкоды?**

**ВФ:** Як шоу, вядома, карыснае. Але хакею толку не дае. Можна прасачыць па выступах зборнай з таго часу, як «Дынама» стала гуляць у КХЛ, штогод зборная выступае горш і горш.

**«НН»: Дык, можа, Лукашэнка мае рацыю, калі хоча стварыць еўрапейскую лігу?**

**ВФ:** Можа. Але вы ўяўляеце, каб Беларусь у такой лізе была старшынёй аргкамітэта, рухавіком працэсу?

**«НН»: Шчыра кажучы, не.**

**ВФ:** Я таксама.

**Гутарыў ЗП**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Фотафакт**

**У Дзень роднай мовы — 21 лютага — каля гімназіі №4 прайшоў пікет супраць русіфікацыі беларускамоўных школ. Яго правёў бацька аднаго з навучэнцаў Гэнік Лойка. 50-гадовы скульптар даўно і беспаспяхова дабіваецца, каб у статут гімназіі быў занесены запіс, што навучанне ў ёй вядзецца на беларускай мове. Лойку затрымалі, а суддзя Людміла Лапо асудзіла мужчыну на 5 сутак арышту.**

# Цясак з сябрамі-неанацыстамі выйшаў на волю

А Дашкевіч з Лобавым працягваюць знаходзіцца **за кратамі**.

24 лютага з ізалятара часовага ўтрымання былі вызвалены грамадзянін Расіі Максім Марцінкевіч, а таксама двое ягоных сяброў — грамадзян Беларусі, пра гэта «НН» паведаміў афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў.

«Усе трое адпушчаныя з ізалятара ў сувязі з адсутнасцю асноваў для далейшага знаходжання пад вартай», — сказаў Герасімаў.

14 лютага неанацыст Максім Марцінкевіч (Цясак) разам з двума грамадзянамі Беларусі быў затрыманы ля шпіталя «Новы зрок» па вуліцы Клумава. Адбылася сутычка з антыфашыстамі, якія аблілі Цесака і кампанію мачой. У адказ неанацысты выцягнулі нажы, а ў руках Цесака быў газавы пісталет.

«Абвінавачванне нікому не выстаўлена, — зазначыў Герасімаў. — Яны працягваюць знаходзіцца ў статусе падазраваных па крымінальнай справе «злоснае хуліганства». Выпушчаныя яны пад абавязак аб яўцы».

Паведамляецца, што пакуль Максіму Марцінкевічу забаронены выезд з тэрыторыі Беларусі. На пытанне пра антыфашыстаў Герасімаў адказаў: «Пакуль не магу паведамляць падрабязнасці пра іх. На дадзены момант яны з'яўляюцца сведкамі па справе».

Яшчэ прадстаўнік Следчага камітэта сказаў, што ўсё яшчэ не гатовая экспертыза зброі — нажоў і газавага пісталета «Удар-2 М».

«Мінскія шаўкі (так неанацысты называюць антыфашыстаў — «НН») не толькі лохі, але і цярпілы», — напісаў Цясак на сваёй старонцы «Укантакце». Падзякаваў нападнікам, што яны дазволілі яму прапіярыцца.

З'явіліся новыя здымкі Марцінкевіча. Напрыклад, у акулярах з подпісам «Цяпер я добра бачу» ці ў ложку — «Сакрэтнае фота з камеры для нацыстаў».

На сваіх сайтах таксама неанацысты змясцілі імя і фотаздымкі антыфашыста, які атрымаў удары нажом — гэта 30-гадовы Арцём К.

Звяртае ўвагу, што Цесака і ягоных сяброў падазраюць па тым самым артыкуле, за які судзілі маладафронтаўцаў Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава — артыкул 339 КК «Злоснае хуліганства» з прымяненнем зброі. Ні Дашкевіча, ні Лобава не адпускалі на волю да суда. Абодва хлопцы атрымалі вялікі турэмны тэрмін. А вось неанацыстаў адпусцілі.



**Цясак у мінскім гіпермаркеце па выхадзе на волю.**

**Зміцер Панкавец**

# Следчыя: Віцебскі КДБ узарвала жанчына з мужчынскімі схільнасцямі

Праваахоўнікі заяўляюць, што раскрытая крымінальная справа па выбуху каля Віцебскага абласнога аддзялення КДБ, што адбыўся летась 11 лістапада.

Пра гэта паведамілі на сумесным брыфінгу начальнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Уладзімір Шалухін і начальнік УУС Віцебскага аблвыканкама Ігар Яўсееў.

У здзяйсненні злачынства абвінавачваецца жанчына, раней судзімая за пашкоджанне маёмасці, хуліганства і крадзяжы. Паводле словаў Шалухіна, падчас агляду месца здарэння былі канфіскаваныя шматлікія фрагменты металу, якія з'яўляюцца фрагментамі бляшанкі з-пад энергетычнага напою, клейкай стужкі і іншыя рэчавыя доказы, якія дазваляюць ідэнтыфікаваць асобу, якая ўчыніла злачынства.

Праведзеныя экспертныя даследаванні і следчыя дзеянні дазволілі зрабіць выснову аб палавай прыналежнасці падазраванай і наяўнасці ў яе ці яе блізкіх пэўнага захворвання. У ходзе ацэнкі канфіскаваных рэчавых доказаў быў высунуты шэраг версій. Акрамя таго, былі старанна вывучаны матэрыялы праверак па ўсіх фактах хуліганскіх дзеянняў з выкарыстаннем піратэхнічных прыладаў у Віцебскай вобласці.

У выніку праведзенай працы ў поле зроку следчых трапіла 42-гадовая жанчына. У рамках расследавання крымінальнай справы па месцы жыхарства апошняй неадкладна быў праведзены ператрус.

Дастаткова наяўных у справе доказаў дазволіла прыцягнуць віцяблянку ў якасці абвінавачванай па крымінальнай справе па ч.3 арт.339 «Злоснае хуліганства». Яна ўзятая пад варту.

**МБ**

## На дзяржканалах прайшлі рэпартажы пра Класкоўскую

Сама Класкоўская дала тэлеканалу Беларусь-1 **тэлефоннае інтэрв'ю**.

Улады Швецыі адмовілі беларусцы Вользе Класкоўскай, якая выдае сябе за журналістку і дзячку беларускай апазіцыі, у візе на жыхарства.

Першы раз яна атрымала палітычны прытулак у Еўрасаюзе, карыстаючыся наяўнасцю ў яе публікацый у незалежных СМІ, а другі раз спрабавала атрымаць від на жыхарства на падставе свайго новага шлюбу, заключанага з туркам, які жыве ў Швецыі. Аднак паводле шведскага заканадаўства гэта не дае падставы для атрымання віду на жыхарства. Да таго ж, як выглядае, з новым мужам Класкоўская ўжо не жыве. Прынамсі, шведскія органы апекі палічылі становішча сямімесячнага дзіцяці настолькі небяспечным для яго здароўя і выхавання, што адабралі яго ў мамы.

Дарэчы, першая эміграцыя Класкоўскай суправаджалася прыкрым канфліктам з бацькам яе першай дачкі, які не пагаджаўся на ад'езд дзіцяці і спрабаваў дабіцца яе вяртання ў Беларусь.Тады ў СМІ Класкоўская падавала канфлікт як палітычны заказ уладаў Беларусі супраць сябе.

У адказ на рашэнне шведскіх уладаў Класкоўская выступіла з шэрагам гучных публікацый на інтэрнэт-сайтах з рэзкай крытыкай заходніх краін і іх палітыкі ў дачыненні да мігрантаў. Нягледзячы на тое, што, па словах Класкоўскай, яна ўцякала з «беларускага раю», ад «рэпрэсій», яе публікацыі прыцягнулі ўвагу лукашэнкаўскай прапаганды.




У рэпартажы сцвярджаецца, што толькі ўлады за яе змагаюцца, а апазіцыя — кінула. Былі выпушчаныя крытычныя стрэлы і ў бок Швецыі ды персанальна былога пасла Стэфана Эрыксана.

**Мікола Бугай**

## Сцісла

### Лукашэнка папярэдзіў бізнэс пра недапушчальнасць фінансавання апазіцыі

«Хачу падкрэсліць: калі хтосьці з бізнесменаў будзе фінансаваць ці нейкім іншым спосабам аказваць негатыўны ўплыў на грамадства, то я буду лічыць, што яны ўключыліся ў палітычную барацьбу, у барацьбу супраць дзяржавы. А там — свае законы. Потым хай не крыўдзяцца такія бізнесмены», — заявіў Лукашэнка на нарадзе па дзейнасці Рады па развіцці прадпрымальніцтва.

### Памёр генканструктар МАЗа Міхаіл Высоцкі

25 лютага пасля працяглай хваробы на 86-м годзе жыцця памёр вучоны і канструктар у галіне машынабудавання, адзін з заснавальнікаў беларускай школы грузавога аўтамабілебудавання, Міхаіл Высоцкі. Ён насіў пачэснае званне Героя Беларусі.

### «Рыцар года» — Раіса Міхайлоўская

Прэмія «Рыцар года» за 2012 год уручана праваабаронцы Раісе Міхайлоўскай. Прэмію штогод уручае былы следчы Алег Воўчак.

### Удзельніка Плошчы вызвалілі ад папраўчых работ

Суд Фрунзенскага раёна Мінска 21 лютага разгледзеў пытанне аб умоўна-датэрміновым вызваленні ўдзельніка Плошчы-2010 Андрэя Пазняка і вызваліў яго ад адбыцця пакарання. Пазняк атрымаў тры гады «хіміі» без накіравання ў папраўчыя ўстановы.

**ЗП**

# Яшчэ трохі менш роднай мовы

**Намеснік старшыні Мінгарвыканкама прапануе дадаць рускую мову на схемы ў метро.**

20 лютага ў Мінгарвыканкаме пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Ігара Карпенкі адбылася нарада аб укараненні сістэмы арыентавання для пешаходаў і ўдзельнікаў дарожнага руху ў горадзе Мінску.

У чарговы раз паўстала пытанне аб зацвярджэнні схемы метрапалітэна з назвамі станцый, афармленых традыцыйнай нацыянальнай лацінкай. І.Карпенка выказаўся, што трэба замяніць шыльды: унесці дадаткова рускую мову і, верагодна, што транслітарацыя будзе рабіцца з рускай мовы.

Гэта азначае, што Карпенка выступае прыхільнікам, а магчыма і ініцыятарам зменаў у «Закон аб назвах геаграфічных аб'ектаў», прынятага ў лістападзе 2011 года, паводле якога назвы геаграфічных аб'ектаў павінны давацца на нацыянальнай (беларускай) дзяржаўнай мове і з яе транслітаравацца на другую дзяржаўную мову. Парадаксальна, што сам І.Карпенка, быўшы дэпутатам палаты прадстаўнікоў, галасаваў за гэты закон. Але не прайшло і два гады...

Змены ў законе пацягнуць за сабой у тым ліку змену адраснай сістэмы краіны насуперак усім міжнародным нормам. Гэта пацягне за сабой вялікія матэрыяльныя выдаткі.

«Беларуская лацінка прайшла ўзгадненні ва ўсіх міністэрствах, Акадэміі навук, была ўхвалена ААН. Многія міжнародныя дакументы «завязаны» на лацінцы», — кажа старшыня тапанімічнай камісіі Акадэміі навук Ігар Капылоў, які прысутнічаў на нарадзе ў Карпенкі.

Больш за ўсіх ад моўнага пытання пакутуе метрапалітэн. Мінгарвыканкам адмаўляецца ўзгадніць макеты ўказальнікаў і схему.

«Там утварылася нейкая пляяда супраць лацінкі, а патрабаванні Карпенкі ўвогуле незаконныя», — кажа кіраўнік КУП «Мінскі метрапалітэн» Расціслаў Юрэня.

Замена ўказальнікаў у метро — не танная справа. Камплект шыльдаў для адной станцыі каштуе 25 мільёнаў рублёў.

Прычынай спрэчак на пустым месцы Юрэня называе «элементарнае няведанне».

Ігар Капылоў лічыць, што «праблема ў псіхалогіі беларусаў». «У такіх пытаннях трэба ўлічваць меркаванне спецыялістаў», — кажа навуковец.

Можна дадаць, што пры такім падыходзе знішчаецца нацыянальны каларыт краіны.

Каментара самога Ігара Карпенкі атрымаць не ўдалося.

Канчатковае вырашэнне пытання адбудзецца ў Адміністрацыі прэзідэнта.

**Кірыла Хілько**

# Пяць фактаў пра Ігара Карпенку

**Старшыня Кампартыі працуе намеснікам па ідэалогіі старшыні Мінгарвыканкама.**


MINSK.GOV.BY

### Сібірак

Ігар Карпенка нарадзіўся ў 1964 у Новакузнецку. Гэта сібірскі горад непадалёк ад Казахстана. Першую адукацыю ён атрымаў у Мінску — у педінстытуце. Ёсць і другая — у Акадэміі кіравання.

Пасля службы ў войску Карпенка адразу пачаў працаваць на ідэалагічных пасадах. У педагагічным універсітэце ён прайшоў ад пасады сакратара камітэта камсамола да прарэктара па выхаваўчай працы.

### Першы сакратар

У беларускіх чыноўнікаў не прынята знаходзіцца ў шэрагах палітычных партый. А Карпенка не проста партыец, а яшчэ і кіраўнік Камуністычнай партыі Беларусі.

«Несумненна, у аснове нашай праграмы ляжыць тэорыя марксізму-ленінізму», — заявіў ён пасля абрання. Дарэчы, у палаце прадстаўнікоў цяпер ёсць трое камуністаў.

Не цураецца Карпенка і «Белай Русі». Ён браў актыўны ўдзел у леташнім з'ездзе арганізацыі.

### Былы дэпутат

Сам Карпенка быў дэпутатам парламента папярэдняга склікання. З цягам часу ён прабіўся ў старшыні камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД. Карпенка ездзіў па Еўропе і абураўся дзеяннямі Захаду.

«Вобразна кажучы, я ўжо не школьнік, каб мне з ПАРЕ пагражалі пальцам, што мы нешта не так робім», — заявіў ён падчас візіту ў Францыю.

### Кіраўнік выбарчай камісіі

Падчас прэзідэнцкай кампаніі-2010 Карпенка, які адкрыта заклікаў сваю партыю падтрымаць Лукашэнку, узначаліў Мінскую выбарчую камісію.

### Віцэ-мэр

У 2011 Лукашэнка прызначыў Карпенку, тады яшчэ дэпутата, намеснікам старшыні Мінгарвыканкама. З таго часу ў сферу ягонага ўплыву ўваходзяць пытанні ідэалогіі, адукацыі, аховы здароўя, спорту, турызму і сацыяльнай абароны. Камуніст старанна ахоўвае афіцыйную ідэалогію.

На пытанне, чаму ў сталіцы няма вуліцы Васіля Быкава, Карпенка адказваў, што ўшанаванне памяці не абавязкова павінна адбывацца праз назвы вуліц: «Я б не драматызаваў гэтую сітуацыю». Затое вуліца Карла Маркса, на яго думку, патрэбная.

Цяпер рукі ўраджэнца Новакузнецка дацягнуліся да нашай роднай мовы.

**Ягор Марціновіч**

**Карэспандэнт атрымаў заданне**

# Дачнікі супраць фермера

**Жыхары вёскі пад Магілёвам судзяцца з уладамі, якія перадалі поплаў гаспадарцы «Пралесак».**

У 2011-м Магілёўскі раён перадаў фермеру (гаспадарка «Пралесак») Юрыю Коршунаву зямлю ў пажыццёвую арэнду. У тым ліку і поплаў каля вадаёма. Жыхары суседняй вёскі Нядашава-2 абскардзілі рашэнне ўладаў. У часе судоў жыхары знайшлі дадатковы аргумент — на той зямлі могуць быць старажытныя курганы. Сайт «Хартыя-97» так і напісаў: «Пад Магілёвам знішчаюць курганы». У справу ўцягнуўся магілёўскі археолаг Ігар Марзалюк, цяпер — яшчэ і сенатар.

### «На тым поплаве бур'ян стаяў»

Фермер катэгарычна не згодны з версіяй, што з ім «судзіцца ўся вёска». «Няма ніякай цэлай вёскі, ёсць толькі адзін чалавек — Дзмітрый Яўстратаў».

Коршунаў характарызуе свайго апанента як чалавека спецыфічнага. Маўляў, у вёсцы з кім ён толькі не сварыўся. «У нас тут былі праверкі з раёна, вобласці, з Дзяржкантролю. Нават памочнік Лукашэнкі па Магілёўшчыне Лаўранкоў быў. І цяпер ён на іх у суд падае».

Па яго словах, прадмет спрэчкі даўно стаяў зарослы бур'яном, туды смецце звозілі. Скаціну там пасвіць было немагчыма, дый у навакольных вёсках даўно ўжо ніхто не трымае кароў. «А месца гэтае пры дарозе, самі разумееце». Кажа, што ў яго пайшоў цэлы год на ўпарадкаванне зямлі. «І тады Яўстратаў напісаў заяву, каб яму на тым месцы выдзелілі ўчастак на пабудову дома. А яму не далі — і тады пачалося».

Фермер не згодны і з тым, што ягонае поле нібыта не дае мясцовым адпачываць на беразе вадаёма. «Я сам там упарадкаваў пляж, крынічку да ладу давёў».

Яшчэ адной з прычынаў узнікнення канфлікту, кажа Коршунаў, стала ягонае дэпутацтва. «Яўстратаў таксама хацеў у дэпутаты, але выйграў я — прайшоў і ў сельскі Савет дэпутатаў, і ў раённы».

Фермер Коршунаў — добра вядомы на Магілёўшчыне. Ён старшыня абласнога саюза фермераў.

### «Нічога не маю супраць фермера — чалавек працуе»

Дзмітрый Яўстратаў кажа, што для яго галоўнае ў гэтай гісторыі — аднавіць свае правы. «Нічога не маю супраць фермера Коршунава — чалавек працуе, ну і няхай працуе».

Яўстратаў падкрэслівае, што яго, як і іншых жыхароў вёскі, абурылі паводзіны мясцовых уладаў. «Быў у нас поплаў, дзе мы адпачывалі, і раптам зямлю аддаюць фермеру, а той пачаў там кукурузу сеяць. У нас ніхто не спытаў, хоць па законе грамадскае меркаванне абавязаны былі ўлічыць».

Яўстратаў мяркуе, што іх канфлікт характарызуе стаўленне ўладаў да правоў грамадзян у цэлым.

Ён абвяргае словы фермера пра бур'ян і ягоныя спробы атрымаць на расчышчаным полі ўчастак пад будоўлю. «У вёсцы жывуць культурныя людзі. Ніякага бур'яну там не было». Яўстратаў нарадзіўся ў Нядашаве, тут у яго хата.

На выбарах фермеру ён сапраўды прайграў. «У вёсцы большасць — дачнікі з Магілёва. А мясцовыя пенсіянеры — людзі старога гарту. Баяцца пярэчыць таму, хто мацнейшы, галасуюць, як ім скажуць».

Дзмітрый Яўстратаў працуе ў Магілёве ў філіі прыватнай фармацэўтычнай кампаніі.

### «Курган не пацярпеў»

Магілёўскі археолаг Ігар Марзалюк расказаў, што курганны могільнік не пацярпеў, бо знаходзіцца праз раку ад спрэчнага ўчастка. Па яго словах, з планаў XVIII ст. вынікае, што над самім поплавам, на фермерскай зямлі, месціўся фальварак. «Магчыма, тут было і селішча. Пакуль можна сказаць толькі, што нідзе яно не ўлічанае». Як сыдзе снег, археолаг збіраецца прыехаць у Нядашава-2 на раскопкі.

Марзалюк кажа, што ў Беларусі многія селішчы знаходзяцца на тэрыторыі сельгасугоддзяў. Ён не бачыць праблемы, калі такая тэрыторыя апрацоўваецца тэхнікай на глыбіню да 40 см. «Бяда толькі, калі там працуе бульдозер. Ці хтосьці вырашыць тут будаваць жытло. Гэта ўжо, фактычна, злачынства, такога нельга дапускаць».

**Сямён Печанко**

**Афіцыйна**

20 лютага суд Ленінскага раёна Магілёва прызнаў, што законныя правы Яўстратава дзеяннямі мясцовых улад не парушаныя.

# Снапкоў: Беларусі пагражае змяншэнне валютных рэзерваў ці дэвальвацыя

Міністр эканомікі папярэдзіў пра **наступствы пагоні за мадэрнізацыяй**.

Мінэканомікі прагназуе рэзкі рост замежнай запазычанасці Беларусі ў 2013 годзе. Яна можа вырасці на $6,8 мільярда да $41,6 мільярда і аўтаматычна перавысіць парогавае значэнне бяспекі.

Такія лічбы былі агучаныя ў дакладзе міністра эканомікі Беларусі Мікалая Снапкова на пасяджэнні Саўміна 13 лютага.

«Разлікі паказваюць, што ва ўмовах «класічнага» выкарыстання дзяржаўнай падтрымкі дзеянні прадпрыемстваў накіроўваюцца не на развіццё, а на асваенне сродкаў. Ужо сёння на праведзенне мадэрнізацыі дадаткова заяўлена $3,5 мільярда інвестыцый...» — гаворыцца ў тэксце даклада.

Ведамства таксама прадказвае, што ў 2013 годзе мадэрнізацыя стане прычынай дадатковага інвестыцыйнага імпарту на суму не меней за $1,6 мільярда. «Узніклы разрыў можа быць кампенсаваны альбо за кошт зніжэння золатавалютных рэзерваў, альбо за кошт дэвальвацыі», — папярэджвае Снапкоў.

**Сяргей Гезгала**

## Лукашэнка: Нейкія ідыёты

Праз некалькі дзён пасля заявы Снапкова журналісты запыталіся ў Аляксандра Лукашэнкі пра тэзісы з даклада міністра эканомікі, назваўшы іх меркаваннем экспертаў. «Гэта для мяне наогул навіна, што нейкія ідыёты ў краіне, так званая экспертная супольнасць, кажуць пра дэвальвацыю нацыянальнай валюты ў імя якойсьці мадэрнізацыі. Мадэрнізацыя такой цаной нам не патрэбна», — абрэзаў Лукашэнка, не разумеючы, што каментуе меркаванне Снапкова.

# Карта багацця Беларусі

**Колькі зарабляюць** у кожным з раёнаў краіны?

Белстат падлічыў, які сярэдні заробак мелі беларусы за снежань 2012 года. Гэтыя лічбы заўсёды большыя, чым у астатніх месяцах, за кошт прэмій і надбавак. У лідарах апынуліся раёны з прамысловымі гігантамі, у аўтсайдарах — раёны заходняй Віцебшчыны і ўсходняй Магілёўшчыны.

**Ягор Марціновіч**

**Самыя багатыя раёны**
1. Салігорскі 740
2. Мінскі 651
3. Жлобінскі 610
4. Дзяржынскі 583
5. Мазырскі 577
6. Рэчыцкі 563
7. Смалявіцкі 552
8. Асіповіцкі 532
9. Ваўкавыскі 522
10. Нясвіжскі 522

**Самыя бедныя раёны**
1. Браслаўскі 340
2. Шаркаўшчынскі 355
3. Шумілінскі 358
4. Слаўгарадскі 359
5. Краснапольскі 361
6. Лоеўскі 361
7. Акцябрскі 363
8. Кармянскі 363
9. Ушацкі 363
10. Хоцімскі 364

**Самыя багатыя гарады**
1. Мінск 736*
2. Наваполацк 735
3. Гродна 591
4. Бабруйск 578
5. Жодзіна 573
6. Брэст 564
7. Гомель 552




*заробкі за снежань 2012 у далярах

# Пад Мінскам перарабляюць грузавыя Ford Transit у маршруткі

Цана завялікая — $60 тысяч.

У пасёлку Абчак пад Мінскам пачаўся выпуск мікрааўтобусаў «Юнілайн-3595». Іх будуць рабіць на заводзе кампаніі «Юнісон» былога дэпутата Аляксея Ваганава.

Ford пастаўляе на «Юнісон» грузавы Transit з высокім дахам, а беларусы пераабсталююць яго пад пасажырскі аўтобус — выразаюць вокны, устанаўліваюць сядзенні. У выніку выходзіць маршрутка — у ёй могуць сесці 17 пасажыраў, яшчэ для пяці чалавек застаюцца стаячыя месцы.

Пярэднепрывадны «Юнілайн-3595» мае турбадызельны рухавік на 2,2 літра. У ім 6-ступеневая механічная каробка, падушка бяспекі кіроўцы і антыблакіровачная сістэма. А вось рамяні бяспекі ўсталяваныя толькі для некалькіх пасажыраў.

Ford прапануе двухгадовую гарантыю без абмежавання прабегу альбо на пяць гадоў, але з абмежаваннем у 160 тысяч кіламетраў.

Прыблізны кошт мікрааўтобуса складзе каля $60 тысяч. Кандыцыянер і шкло з падагрэвам — за дадатковы кошт. Гэта немалая сума, калі ўлічыць, што, напрыклад, пасажырскія мікрааўтобусы Peugeot Boxer можна набыць за $50 тысяч.

Маршруткі з Ford робяць і ў Расіі, і таксама танней — за $40—45 тысяч.

**ЯМ**



**Якія аўтамабілі выпускалі на заводзе ў Абчаку?**

1997—2000 — мінівэн «Форд Транзіт» і легкавік «Форд Эскорт» (сабрана каля 2300 аўтамабіляў)

2004 — мікрааўтобус «Люблін-3» (каля 1000 аўто)

2006—2011 — легкавік «Саманд» (больш за 1000 аўто)

ABW.BY



ABW.BY



ABW.BY

## Сціісла

**Цана квадратнага метра ў Мінску падыходзіць да $1500**

Па стане на 25 лютага сярэдняя прапанова кватэр дасягнула $1454 за квадратны метр. За месяц яна вырасла на $40. Фактычна, тыповая двухпакаёўка за люты падаражэла на $2000. Цана рэальных угодаў на другасным рынку ў студзені склала $1306 за метр. Квадратны метр у новабудоўлях прадаецца ў сярэднім за $1362.

**Іранцы прадалі «Онэрбанк» немцу і туркмену**

«Онэрбанк» змяніў сваіх акцыянераў. Раней 100% яго акцый валодалі іранскія банкі, аднак у 2010 на іх былі накладзеныя санкцыі ЗША. Цяпер 94% акцый банка прададзеныя грамадзяніну Германіі Х.М.Танха, а рэшта — кампаніі грамадзяніна Туркменіі Аматуняна.

**Рыхтуюцца змены ў закон аб прыватызацыі**

У акцыянерных таварыствы, нават калі дзяржава не мае ў іх ніводнай акцыі, зможа прызначацца прадстаўнік дзяржавы. Ён будзе галасаваць ад імя акцыянераў, якія маюць менш за 2% акцый і не прыйшлі на агульны сход. Таксама можна будзе заблакаваць рашэнні сходу, калі яны супярэчаць «грамадскай карысці».

**Даражэюць квіткі на цягнікі ў Расію**

З 22 лютага яны падаражэлі на 11—33%. Напрыклад, плацкарта з Мінска да Масквы цяпер будзе каштаваць ад 381 тысячы рублёў, а купэ — ад 725 тысяч.

**«Сомбелбанк» перайменаваны ў «Ідэя Банк»**

99,994% акцый банка належаць структурам польскага мільянера Лешака Чарнецкага. У Польшчы і Украіне аганыя фінансавыя ўстановы працуюць пад назвай «Ідэя Банк». Цяпер такую назву атрымае і беларускае аддзяленне.

**ЯМ**

# Мужчыну столькі ж гадоў, колькі яго жанчыне

Усевалад Сцебурака — паэт, прафесійны тамада, шоўмэн і **брутальны мужчына**, які любіць жывёлак.




ГАННА БАБІЦКАЯ

### Бацькі не хацелі, каб я стаў доктарам

Нарадзіўся я ў Жлобіне, на радзіме матулі. Бацькі ніколі не дыктавалі мне сваіх умоваў. Выхоўвалі цвёрда. Іх адносіны добра ілюструе наступная сітуацыя: калі вучыўся на гістфаку БДПУ, пасля іспытаў мы, студэнты, званілі бацькам — даць справаздачу. Дык вось, калі я атрымліваў за іспыт пяць, маці казала: «Што, не пыталі?» А калі атрымліваў чатыры: «Што, сынку, не давучыў?» То бок, за 5 — не хвалілі, а 4-ка была дрэннай адзнакай.

Мае бацькі — лекары. Усё жыццё яны працуюць па спецыяльнасці. Папраўдзе, яны ніколі не зычылі мне доктарскага хлеба, бо без унутранага паклікання лекарам быць можна, але ці варта?

### Ніякай лірыкі

Сям'я медыкаў — гэта найперш гумарысты і цынікі. Ніякіх цялячых мі-мі-мі, ахаў і охаў. Пры гэтым цынізм быў заўсёды пазітыўны, з натуральным разуменнем таго, што ўсе людзі звычайна хварэюць і заўжды паміраюць. Асабліва паслядоўна такая пазіцыя вытрымлівалася дома татам, маці больш сентыментальная, вельмі чулая і рэлігійная пані, шчыра трымаецца праваслаўнай веры. Я сам разам з братам Толем у малодшых класах скончыў царкоўную нядзельную школку для дзетак. І гэта было свядома. Іншы бок, што вера была крытычнай.

### Вядомы хуліган у школе

Я быў непаслухмяным, але ў межах правільнага выхавання. Я не краў у краме, не рабаваў бабуль, не біў твары аднакласнікам. Але мне рэгулярна рабілі заўвагі і нават выклікалі да завуча і дырэктара. Я прагульваў урокі, не рыхтаваўся, паліў за школай цыгарэты, але гэта ўсё некрымінальнае.

### Магу тыдзень не выходзіць з кватэры

З дзяцінства мне падабалася праводзіць час сам-насам з цацкамі, пазней з кніжкамі. І цяпер я магу без стратаў для псіхалагічнага стану тыдзень не выходзіць з хаты і мне будзе абсалютна камфортна. Мне класна з сабой, з добрым чытвом. Я выходжу, а паўсюль людзі-людзі-людзі — гэта хутка стамляе. У дзяцінстве мае аднагодкі раслі нармальнымі людзьмі, без тэлефонаў і інтэрнэту. Мы рэальна шмат заставаліся ў самоце. У нас быў час, каб усвядоміць сваё месца ў свеце. Пры тым, што я кампанейскі чалавек і вельмі люблю сябрыну.

**Усевалад Сцебурака**

нарадзіўся ў 1981 у Жлобіне ў сям'і дактароў. Скончыў гімназію ў Вілейцы, гістарычны факультэт БДПУ. Друкаваўся ў «Нашай Ніве», «Куфэрку Віленшчыны», проза — у «Дзеяслове». Працаваў асістэнтам кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі БДТУ.

### Я люблю прыборку

Я люблю хатнія справы, люблю прыборку, гатаваць, мыць посуд, парадкаваць рэчы на сваіх месцах. У мяне заўсёды парадак, я магу падняцца ноччу і скрозь сон буду ведаць, дзе і што ляжыць, бо яно так ляжыць ужо гадоў 10. Я не люблю новае і прымаю яго па неабходнасці. У адзенні, у музыцы мяне цягне на, як кажуць, «олдскул». Праз тое не надта ганюся за модай.

### Маё першае рыфмаванне — лухта

Пачаў пісаць у гадоў 16—17. Першы мой верш быў напісаны ў інстытуце. Памятаю, выкладчык беларускай мовы прапанаваў тым, хто ўмее, напісаць які-небудзь верш. Ну, вось я і напісаў. Ён быў прысвечаны гораду Мінску і пачынаўся радкамі: «Сталіца, ну няхай сабе не Вільня». Гэта бадай адзін верш, які быў складзены на замову.

### У Беларусі літаратурай не зарабляе ніхто

Паэт павінен быць лайдаком і павінен мець вольны час. Паэт павінен дыхаць напоўніцу — чым больш паўсядзённай работы, тым горш. Якасныя вершы і літаратура наогул не пішуцца ля станка, хто скажа, што гэта не так — не верце. Пра крыніцы натхнення скажу наступнае: мяне не натхняе тэхнічны прагрэс, касмалёты, біяробаты, генетычныя эксперыменты і так далей. Мяне натхняюць банальныя, жыццёва-кансерватыўныя каштоўнасці: радзіма, сям'я, сябры, каханне.

### У Фэйсбуку рэвалюцый не зробіш

Немагчыма зрабіць рэвалюцыю лайкамі ў Фэйсбуку. Наша інтэрнэт-прастора — гэта шмат для каго аддушына. Людзі натуральна баяцца за сваіх родных, за інстытут, за працу. У нармальнай краіне ты можаш пайсці і стаць з плакатам «Я не люблю Сарказі» і ты будзеш жывы, і, напэўна, здаровы, і пойдзеш спакойна дадому. У нас жа за плакат «Далоў Лукашэнку» ты як мінімум не вернешся дадому сутак 10. Пры нармальных умовах усё павінна выходзіць у рэальную прастору. Дрэнна, калі чалавек імкнецца рэалізаваць сябе толькі ў штучнай прасторы.

### Апазіцыя

Я стаўлюся крытычна да апазіцыі, але ў той жа ступені, наколькі крытычна стаўлюся да сябе. Не магу на дадзены момант прапанаваць чагосьці больш радыкальнага, чым тое, што прыдумана да нас.

### Купацца ўначы

Некалькі гадоў таму, патрапіўшы на адзін беларуска-шведскі культурніцкі праект, я пабачыў прыўкрасную паненку. Скажу адразу — яна не мела адносінаў ні да беларускай літаратуры, ані да шведскай, але была ў ліку ўдзельнікаў як студэнтка моўных курсаў. Гэта ніяк не перашкодзіла мне пазнаёміцца з ёй і ўжо праз суткі, збегшы з гатэля, купацца з ёй у дзве гадзіны ночы на гарадскім пляжы ў Брэсце.

Яе завуць Ганна, яна карэнная мінчучка, выпускніца БДУ. Займаецца графічным дызайнам і фатаграфіяй, працуе ў адным з топавых рэкламных агенцтваў сталіцы. У нас даволі вялікая розніца ва ўзросце. Кажуць, што мужчыну столькі ж гадоў, колькі гадоў яго дзяўчыне.

### Доўга і добра жывуць сябры

Гарманічныя адносіны не будуюцца толькі на машынах, кватэрах, бабле і сэксе. Мужчына і жанчына, якія плануюць жыць разам, павінны быць перадусім сябрамі. Як бы ні было добра ў ложку, калі вам няма пра што паразмаўляць, няма супольных інтарэсаў — нічога не выйдзе. Тыя людзі, якія жывуць доўга і добра — гэта сябры. Жарсць і палкае жаданне — гэта прыгожа. Але не варта падманвацца, спадзеючыся, што гэта на ўсё жыццё.

**Гарманічныя адносіны не будуюцца толькі на машынах, кватэрах, бабле і сэксе**

### Чалавек, які смярдзіць — свіння

Не пераношу неахайнасць, нямытасць, нячэсанасць. Будзь апошнім засранцам, але калі ты выйшаў на вуліцу — выглядай на ўсе 100%. Чалавек, які паважае сябе і іншых, не выйдзе з пад'езда ў трэніках і з нямытай тры дні галавой.

З юнацтва для мяне не было сакрэтам карыстанне нейкай парфумай. У мужчыны, як і ў жанчыны, павінна быць усё нармальна і прыгожа. Павінны быць нармальныя пазногці, дагледжаная скура, прыбраныя валасы. Чалавек, які смярдзіць з усіх адтулін — свіння. Я карыстаюся, асабліва па працы, і пенай для ўкладкі валасоў, і духамі, і рознай трасцай кшталту пудры і танальніка.

### Шоўмэнства — спецыфічная праца

Шоўмэнства мне заўсёды падабалася. Я праводжу мерапрыемствы як на беларускай, так і на рускай мове. Мне падабаецца, і мне гэта, пэўна, удаецца. Але гэта праца не для ўсіх і на выключнага аматара. Тое, што звонку падаецца простым, вымагае насамрэч вялікіх высілкаў. Правесці на нагах 10—12 гадзін, не замаўкаючы і трымаючы залу з сотняй рознай ступені ап'янення людзей, нялёгка.

### Не ўмею збіраць грошы

Я лёгка развітваюся з грашыма. Мне падабаецца культура кавярняў і бараў, ніколі не шкадую грошай на кнігі.

### З радасцю быў бы егерам і ветэрынарам

Калі б у мяне было яшчэ адно жыццё, я б хацеў быць ветэрынарам. Я вельмі люблю жывёлу. Мая бабуля па бацькавай лініі размаўляла з усім, што рухаецца, і жывёлкі адказвалі тым жа. Ветэрынар у нашай краіне — гэта не так лірычна, і я гэта разумею, але я хацеў бы ім быць. А яшчэ я б з радасцю быў бы егерам. Выкладаючы ў тэхналагічным універы, я нават падумваў паступіць на адпаведную спецыяльнасць... Калі ўбачу, што чалавек дрэнна ставіцца да жывёл і прыроды, я з гэтым чалавекам справаў мець не буду.

### Стаўлюся нармальна, калі камусьці трэба даць у твар

У разуменні сучасных хіпстараў, я — брутальны персанаж. Я люблю простую праўду і справядлівасць, я стаўлюся нармальна, калі камусьці трэба даць у твар, калі чалавек заслугоўвае дрэннага слова, то не трэба казаць «радыска», трэба сказаць: «Ты — гаўно».

...Калі жанчына прыгожая, то таксама трэба ёй гэта сказаць.

**Вольга Гарапучык**

# Біскуп Віцебскі Блін сышоў у адстаўку, яго часова замяніў Кісель



Ксёндз прэлат Францішак Кісель.

25 лютага Папа Бенедыкт XVI прыняў прашэнне 59-гадовага біскупа Уладзіслава Бліна аб адстаўцы з кіравання Віцебскай дыяцэзіяй. Блін моцна хварэе і лечыцца ў ЗША.

Адначасова Папа прызначыў Апостальскім адміністратарам дыяцэзіі ксяндза прэлата Францішка Кісяля, да гэтага Генеральнага вікарыя той жа дыяцэзіі.

Кс. Францішак Кісель нарадзіўся ў 1959 на Глыбоччыне. Пасля заканчэння школы і вучобы ў Віцебскім тэхнікуме сувязі служыў у войску. У 1982 паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе. Святарскае пасвячэнне атрымаў праз пяць гадоў. Працаваў у Латвіі, Браславе. Апошнія 20 гадоў служыў у Полацку. За гэты час у горадзе быў пабудаваны касцёл св. Андрэя Баболі.

**Лявон Максюта**

# Танец Мішэль Абамы стаў хітом Ютуба

Танец, які першая лэдзі ЗША Мішэль Абама выканала на шоу Late Night with Jimmy Fallon, стаў хітом YouTube.

Ролік Evolution of Mom Dancing («Эвалюцыя танца мамы») быў апублікаваны ў пятніцу, 22 лютага. Цяпер яго прагледзелі амаль 6 мільёнаў разоў.

На відэа Мішэль Абама і пераапрануты жанчынай комік Джымі Фэлан паказваюць некалькі танцавальных рухаў.

Нумар быў выкананы ў падтрымку кампаніі Мішэль Абамы Let's Move («Давайце рухацца»), якая прапагандуе здаровы лад жыцця, у тым ліку правільнае харчаванне і фізічныя нагрузкі.

Мэта кампаніі — барацьба з атлусценнем у амерыканскіх школьнікаў. У сувязі з гэтым Мішэль Абама заклікае бацькоў быць прыкладам для дзяцей і самім весці рухомы лад жыцця.

**Сямён Цыбульскі**



**Фотафакт**




Мінскае «Дынама» падпісала крутога легіянера. Нігерыец Крысціян Абода больш за дзесяць гадоў правёў у італьянскіх камандах — «Лечэ», «Перуджа», «Удзінэзэ», «Фіёрэнтына». Прычым афрыканец яшчэ зусім не стары — яму 28 гадоў. Абода цікавы не толькі спартыўнымі дасягненнямі, але і тым, што летась быў скрадзены злачынцамі на радзіме, калі ішоў у царкву. Тым не менш, нігерыйскія паліцыянты правялі ўзорную аперацыю і вызвалілі футбаліста з палону.

# У Расіі павысяць хуткасць на дарогах

Міністэрства ўнутраных справаў Расіі накіравала ва ўрад пакет прапановаў, якія прадугледжваюць унясенне шэрагу змяненняў у Правілы дарожнага руху.

Ведамства прапануе дапоўніць ПДР новымі дарожнымі знакамі і паняццем паркоўкі. Акрамя таго, максімальную дазволеную хуткасць на аўтамагістралях прапануецца павялічыць з цяперашніх 110 да 130 кіламетраў у гадзіну.

У Беларусі максімальная хуткасць на дарогах — 120 км/г (напрыклад, на трасе Брэст — Мінск — мяжа Расіі і ад Мінска да аэрапорта).

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Баразна і цвік рэвалюцыі

«Юзаф, — ён моцна пацiснуў руку, — беларускі паляк». Трохі падумаў і паправіўся: «Літоўскі беларус». Не паспеў я заблытацца ў ягоных самавызначэннях, як усё стала на сваё месца: «...Два мае прадзеды пахаваны ў Навагрудку. Па матчынай лініі. О, адзін з іх вялікі майстра па шкле быў, у Бярозаўцы працаваў, некаторыя ягоныя вырабы ў матулі дасюль захаваліся...»

На жаль, не пабачыў я тых вырабаў, бо да маці Юзафа, што самастойна вядзе на трох гектарах сваю фермерскую гаспадарку, так і не трапіў. І адлегласць невялікая — якіх трыццаць кіламетраў ад Вільні ў бок Шальчынінкая, і цікаўнасць падштурхоўвала — фермерцы як-ніяк за 80 гадоў... Аднак не здарылася. Дамовіліся, што Юзаф тое-сёе раскажа сам.

Юзафу пяцьдзясят, ён знаны ў Вільні адмысловец па рамонту камп'ютарнай тэхнікі. «Мусіць, цяжка маці адной?» — «Нічога, гаспадарыць — пчол разводзіць, сад даглядае, сёлета дзесяць тон яблык прадала. Я, хоць і гарадскі стаў, дапамагаю, сусед з трактарам — за невялічкую плату, мясцовы стараста не ў баку, Еўрасаюз штогод грошы дае...»

Слухаю Юзафа і намагаюся ўспомніць, каго ён нагадвае мне. Так, вядома, Здзіславу — такі ж, як у Юзафа, круглы твар, такія ж блакітныя вочы, толькі русыя валасы забраны ў цяжкую касу...

*...1964 год. З блакітных вачэй Здзіславы цякуць слёзы, каса здрыгваецца разам з плячыма... Я супакойваю яе, абяцаю паразмаўляць з Піліпчыкам, употай спадзяюся, што ён не адмовіць мне, бо вінен за дыплом, які я напісаў яму да заканчэння партшколы...*

«Дзед па бацькоўскай лініі, — вяртае да рэчаіснасці Юзаф, — з-пад Эйшышкеса, таксама тут недалёка. У 30-х гадах ён і два малодшыя браты наняліся на лесараспрацоўку, а калі тая скончылася, прыдбалі ў лесазаводчыка па 10 гектараў

## Урэшце старшынёй абралі дзеда: «абы не чужынец»

пнёў ды карчоў на кожнага, лесапілку, разабралі яе і паставілі тры хаты, тры хутары... Бабуля Анэля, калі мы з сястрой яшчэ малыя былі, расказвала, як яны з дзедам аралі сваю зямлю. Наперадзе бабуля з сякерай — сячэ таўшчэзныя карані, а дзед з плугам цягне за бабулінай сякерай сваю баразну...»

*...Не, гэта я быў вінен Піліпчыку за тое, што ўладкаваў на кватэру. «Не возьмеш настаўніка — пойдзеш у калгас», — прыгразіў Соні, сваячцы вартаўніка ў Глыбоцкім касцёле. А ў лютым Піліпчык папрасіў напісаць яму дыплом. Тэма знаёмая, я сам талдычыў вучням, што сялянскае пытанне, па Леніну, «цвік рускай рэвалюцыі»... І вось гляджу, як заходзіцца ў плачы лепшая мая вучаніца, бо бацька сказаў, што больш у школу не пусціць, калі хутар знясуць...*

... «У 1940 годзе, — працягвае Юзаф, — прыйшлі расейцы і адразу ўтварылі калгас. Заганялі пугай, але асаблівага супраціву не было. Толькі пані Галубоўская, калі з'явіўся першы трактар, лягла ўпоперак на дарозе. Ды са старшынёй узніклі праблемы — ніхто не згаджаўся. У рэшце рэшт абралі дзеда: «абы не чужынец». Пакіраваць, праўда, не паспеў — пачалася вайна. Сышоў некуды на Палессе, у партызаны. А бабуля з трыма дзецьмі, у тым ліку маім будучым бацькам, засталася на хутары...»

*... «Не, супраць лініі партыі я не пайду», — Піліпчык тыцнуў пальцам у стол. А ў красавіку, калі па гэтай лініі падабраўся да хутара выкліканы з леспрамгаса бульдозер, уся сям'я — бацька, маці, Здзіслава, нават два старэйшыя браты яе прыехалі з Латвіі — выйшла на абарону...*

... «Пры немцах майго бацьку, тады маладога хлопца, кінулі на «Лукішкі». За тое, — усміхаецца Юзаф, — што скраў бомбу, калі вагоны з бомбамі разгружаў, хацеў рыбку паглушыць... Вызваліцелі выпусцілі, але хутка зноў пасадзілі, не падабалася, што на немцаў папрацаваў. Сядзеў, праўда, нядоўга, пакуль не вярнуўся дзед пры ордэне і медалях... Ну, і пайшло калгаснае жыццё, аж да 1990 года. Спачатку ізноў пад старшынствам дзеда, а потым і бацькі. Але ў партыю яны не падаліся, трымаліся на адлегласці... Не скажу, каб ужо вельмі дрэнным было тое жыццё. Тэхніка з'явілася, электрычнасць... Калі ў 90-м калгас дзялілі на паі, праціўнікаў было мо не менш, чым пры яго ўтварэнні. Але хутка прызвычаіліся. Тым больш, што зямлю, у каго яна калісьці была, вярнулі. Маці таксама дастала з куфра дакументы на зямлю, што ў 30-х прыдбаў яе бацька, мой дзед. І такім чынам ізноў апынулася на дзедавай баразне...»

*Здзіславін хутар згарэў у траўні, калі пачаліся першыя навальніцы. Быццам трапіла маланка, працяла хату, як той жалезны цвік. Пэўны час, праўда, хадзіла чутка, што Тадэвуш, Здзіславін бацька, сам падпаліў. Як бы там ні было, сям'я таксама з'ехала ў Латвію, да сыноў.*

*Працуючы ў газеце, я час ад часу наведваў тую вёску, распытваў і пра Здзіславу. Але ніхто нічога пра яе не ведаў і нават не чуў...*

*kamerton_41@mail.ru*

# Якія катастрофы пагражаюць чалавецтву: успышкі на сонцы

Піша астраном **Віктар Малышчыц**.

1 і 2 верасня 1859 года на зямным шары адбывалася нешта незвычайнае. Ва ўсёй Еўропе і Паўночнай Амерыцы раптоўна перастала працаваць тэлеграфная сувязь. Ад вялікага скачка напружання абсталяванне выйшла з ладу. Аператары нават не маглі ўзяцца за працу — пры спробе перадаць паведамленне іх проста біла токам, а апараты сыпалі іскрамі, якія нават падпальвалі паперу. Прыборы, якія сачылі за станам зямнога магнітнага поля, зашкальвалі і сведчылі аб нейкім магнітным хаосе на нашай планеце. А ў ЗША золаташукальнікі, што працавалі ў Скалістых гарах, нават прачнуліся сярод ночы і пачалі гатаваць снеданак, думаючы, што надыходзіць раніца. Як выявілася, дзіўнае свячэнне неба ўзнікла з прычыны небывалай яркасці палярнага ззяння, якое назіралі нават на Карыбскіх астравах, Кубе, Ямайцы.

Што гэта было? Якая касмічная сіла прымусіла зямное магітнае поле — наш касмічны шчыт — паддацца такой магутнай магнітнай буры? Астраномы даюць адзін адказ: успышка на Сонцы. Яшчэ 25 жніўня 1859 года з-за края сонечнага дыска з'явілася велізарная група сонечных плямаў, якая працягвала разрастацца і здзіўляць вучоных сваёй актыўнасцю. У гэтай актыўнай вобласці пастаянна адбываліся моцныя ўспышкі, што выкідвалі ў касмічную прастору вялікія аб'ёмы сонечнай плазмы. Нарэшце, 1 верасня, калі сонечныя плямы дасягнулі цэнтра дыска нашага свяціла, у гэтым месцы адбылася неймаверная сілы ўспышка, якую можна было лёгка назіраць нават у звычайны тэлескоп — яна была падобная на два агнявыя шары, яркасць якіх нашмат перавышала яркасць сонечнага дыска. Актыўная вобласць была скіраваная акурат на нас, і ўсяго праз 18 гадзін магутны выкід плазмы дасягнуў Зямлі, учыніўшы магнітную буру, самую магутную за ўсю гісторыю назіранняў, якая атрымала назву «Сонечны супершторм».

Жоўтая прэса і бясконцыя апакаліптычныя прарокі сучаснасці ўсё часцей заяўляюць, што хуткі канец свету нас чакае не ад з'яўлення міфічнай планеты Нібіру, не ад страшнага метэарыта, а ад нашай крыніцы жыцця — ад Сонца. Праз магутную сонечную ўспышку, што знішчыць усё жывое на Зямлі. Наколькі рэальныя такія прагнозы?



Магутная ўспышка на Сонцы.



Гіганцкія сонечныя плямы 31 сакавіка 2001 года.

### Што ўспыхвае на Сонцы?

Сонечныя ўспышкі дагэтуль застаюцца загадкавай з'явай для сучасных астраномаў. Гэта выбуховы працэс вылучэння вялікага аб'ёму энергіі. Вядома, што гэтая з'ява ахоплівае ўсе слаі сонечнай атмасферы і звязаная яна з моцнымі магнітнымі палямі на Сонцы. Вядома, што, калі структура поля ў наваколлі сонечных плямаў становіцца вельмі складанай, то сілавыя лініі могуць пачаць пераразлучацца адна з адной, што прывядзе да вылучэння энергіі, параўнальнай з выбухам дзясяткаў, а то і соцень вадародных бомбаў! Гэтая энергія трансфармуецца ў тым ліку і ў энергію патоку зара-джаных часцінак, якія з велізарнай хуткасцю выкідваюцца з месца ўспышкі ў навакольную прастору.

Праз некаторы час (звычайна паўтара-два дні) гэтыя часцінкі дасягаюць нашай планеты, змяняюць канфігурацыю магнітнага поля, трапляюць у атмасферу ў раёне палюсоў, выклікаючы чароўнае святло палярных ззянняў. Гэты паток сонечнай плазмы ўяўляе вялікую небяспеку і для чалавека: падчас успышак касманаўты не робяць выхадаў у адкрыты космас, а палёты амерыканскіх астранаўтаў на Месяц здзяйсняліся ў дні, калі на Сонцы не было вялікіх плямаў.

Нам, жыхарам Зямлі, пашанцавала. Практычна ўсе высокаэнергетычныя часцінкі сонечнага ветру адхіляе наша магнітнае поле, а зямная атмасфера яшчэ і ратуе нас ад смяротных рэнтгенаўскіх і гама-прамянёў.

Статыстыка, праўда, паказвае, што ў гады высокай актыўнасці Сонца смяротнасць усё ж павышаецца, расце колькасць ракавых і сардэчна-сасудзістых захворванняў, адчуваюцца іншыя негатыўныя праявы. Але не варта хваляваца і тут: гэта натуральныя прыродныя з'явы, бо за сваё жыццё кожны чалавек шмат разоў перажывае максімумы сонечнай актыўнасці (яны паўтараюцца праз 11 год).



Падаючыя спадарожнікі не былі б рэдкасцю.

### Апакаліптычная ўспышка

Што ж адбылося б, калі б нашу планету напаткала магнітная бура, у некалькі разоў мацнейшая, чым падчас «Сонечнага супершторму» XIX стагоддзя?

Спачатку астраномы заўважылі б на паверхні Сонца моцнае свячэнне ў пэўнай кропцы, а спадарожнікі перадалі б аб з'яўленні крыніцы магутнага рэнтгенаўскага выпраменьвання. Гэта працягвалася б толькі некалькі хвілін. Святло рухаецца неймаверна хутка, таму мы б убачылі гэтую з'яву ўсяго праз 8 хвілін пасля выбуху. Але праз некаторы час да нас даляцеў бы і паток сонечнай плазмы неверагоднай энергіі (у 1859 годзе высокаэнергетычныя часцінкі дасягнулі Зямлі ўсяго за 17 гадзін).

Ад сутыкнення гэтых часцінак з нашай атмасферай яе верхнія слаі разагрэліся б і сталі б шчыльнейшымі. Гэта прывяло б да нечаканага тармажэння спадарожнікаў. Калі ў гэтым выпадку не ўключыць рухавікі і не падняць спадарожнік на вышэйшую арбіту, ён рызыкуе ўпасці на Зямлю. Так, напрыклад, у 1972 годзе навукоўцы «ўпусцілі» касмічную станцыю «Скайлэб».

Але разам з тармажэннем парушыцца і радыёсувязь, таму ў інжынераў проста не будзе шанцаў скарэктаваць арбіты штучных спадарожнікаў, і многія з іх пачнуць гінуць у зямной атмасферы. Акрамя адсутнасці сувязі перастане працаваць і навігацыя, ад чаго многія самалёты не змогуць правільна пракласці курс і здзейсніць пасадку. Абдудзецца шэраг авіякатастроф.

З надыходам ночы жыхары Зямлі заўважаць, што на дварэ амаль не сцямнела — планету агорнуць незвычайна яркія каляровыя палярныя ззянні, якія палярнымі будзе назваць цяжкавата: бачныя яны будуць да самага экватара. Прычынай такога феерычнага відовішча будуць тыя ж зараджаныя часцінкі сонечнага ветру, якія будуць іанізаваць атамы розных газаў у верхніх слаях атмасферы.



Магутныя палярныя ззянні афарбуюць неба не толькі ў Мінску, але і на экватары.

Яшчэ са школы мы ведаем, што пераменнае магнітнае поле выклікае ток у праваднiку. У нашым выпадку змены ў магнітным полі Зямлі выклічуць з'яўленне вялікіх токаў у тысячах кіламетраў электрасетак. Ад такіх токаў у першую чаргу перагараць усе трансфарматары, без якіх не абыходзіцца ніводная энергасістэма. Зямля пагрузіцца ў цемру, уночы яе асвятляць будуць толькі Месяц і зоркі. Спадзяванні на бензінавыя генератары будуць марнымі — каб здабыць нафту і вырабіць паліва, таксама патрэбная электрычнасць. Спыняцца і электрастанцыі.



Мінск, як і іншыя гарады, паглыне цемра зорнай ночы.

На аднаўленне ўсёй энергасістэмы чалавецтву прыйдзецца затраціць год ці два. За гэты час нас напаткае найглыбейшы эканамічны крызіс. Многія людзі загінуць ад адсутнасці медыцынскай дапамогі, ад перабояў з харчаваннем. Бадай, найменш праблем будзе ў тых, хто і цяпер вядзе натуральную гаспадарку.

### Ці ёсць паратунак?

Як супрацьстаяць такой магчымай катастрофе? На жаль, калі раптам Зямлю напаткае настолькі моцная магнітная бура, папярэдзіць яе наступствы мы будзем не ў стане. Але найлепшы спосаб супакоіць сябе — гэта разлічыць імавернасць сутыкнуцца з такой катастрофай. Дзякуючы даследаванням антарктычных ільдоў і спілаў самых старых дрэў навукоўцы змаглі высветліць, што за апошнія некалькі тысяч гадоў успышка на Сонцы, магутнейшая за падзею 1859 года, была толькі аднойчы — у 774 годзе. Дый гэтая дата аспрэчваецца многімі спецыялістамі. А паколькі шанцы сустрэцца з такімі катаклізмамі мінімальныя — радуйцеся, што і да сённяшняга дня Сонца з'яўляецца толькі крыніцай цяпла і жыцця на Зямлі.

*Калажы аўтара.*

# «Адпусцяць, як толькі фірмы выплацяць грошы»

Скандал у беларускім **санаторыі ў Сочы**: арышты і суды.

Каб праінспектаваць беларускія аб'екты, што будуюцца пад Алімпіяду-2014 у Сочы, Аляксандр Лукашэнка тыдзень правёў у санаторыі «Беларусь». Вядома, сумясціўшы гэта з адпачынкам.

Падчас візіту быў прызначаны новы дырэктар установы, які належыць Кіраўніцтву справаў прэзідэнта. Доўгі час не было вядома, куды падзеўся ранейшы дырэктар Георгій Саракашыш.

Загаварылі пра арышт. Нібыта выклікалі ў Мінск, дзе і затрымалі. Але Следчы камітэт і КДБ адмаўлялі. Інфармацыю пацвердзіла расійскае пасольства. Прэс-сакратар Уладзімір Марчукоў паведаміў «НН», што грамадзяніну Расіі інкрымінуюць крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры. Адвакат расіяніна лічыць, што яго неабавязкова трымаць за кратамі. Адпаведна, пасольства настойвае на яго вызваленні.

**Хто каму вінен?**

Фірма «Новы горад СКД» і «ФСГ Карпарацыя» пачалі судзіцца з санаторыем «Беларусь».

Арбітражны суд Краснадарскага края разглядае дзве справы фірмы «Новы горад» па спагнанні з санаторыя 207 мільёнаў 712 тысяч расійскіх рублёў (каля $6,7 мільёна) і 58 мільёнаў 64 тысяч (каля $1,9).

«ФСГ Карпарацыя» патрабуе значна меншую суму — 905 150 расійскіх рублёў (каля $30 тысяч).

Гэта пытанні запазычанасці санаторыя перад забудоўшчыкамі.

**Прыслалі адстаўніка**

Новы дырэктар санаторыя «Беларусь» — Уладзімір Рыжанкоў. Ён адстаўны вайсковец-медык. Працаваў начальнікам галоўнага клінічнага шпіталя Міністэрства абароны. Узначальваў Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва. Курыраваў працу санаторыяў, у тым ліку і ў Сочы. А цяпер у Расію пераехаў з пасады начальніка ўпраўлення па медыцынскім забеспячэнні ШКСК «Мінск-Арэна».

### «Спадзяёмся на розум Лукашэнкі...»

Георгій Саракашыш — выдатнік аховы здароўя Расійскай Федэрацыі. Яму 59 гадоў. У санаторыі «Беларусь» у Сочы працаваў галоўным доктарам, затым намеснікам дырэктара. А пасля заняў і кіруючае крэсла.

«НН» знайшла брата затрыманага Хрыстафора. Наш званок заспеў яго ў Маскве, куды ён прыехаў на пахаванне стрыечнага брата. «21 снежня яны выехалі ў Мінск на нараду ў Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Пасля мы даведаліся пра арышт, — расказаў ён. — Будаўнічая фірма не давыканала работы, і нехта камусьці вінен грошы. Гэта чыста гаспадарчая справа. Але затым працягнулі арышт на два месяцы, а цяпер яшчэ на два.

Людзі працавалі сумленна. З будаўніцтвам яны ішлі наперад. Калі не было грошай, фірмы працавалі за свае. Бо ведалі, што беларусы выплацяць».

Па словах Хрыстафора Саракашыша, брат выехаў у Мінск разам са сваім намеснікам Аляксандрам Кізімам, беларусам, і дырэктарам будаўнічага аб'екта ў Сочы, расіянінам. Але ў пасольстве ведаюць толькі пра затрыманне Саракашыша.



Санаторый «Беларусь» размяшчаецца ў будынку, узведзеным яшчэ ў 1930-х.

Хрыстафор назваў фірмы, праз якія брата і арыштавалі. Гэта «Новы горад СКД» і «ФСГ Карпарацыя». Яны не дабудавалі аб'екты на тэрыторыі беларускага санаторыя, але грошы ўзялі: адна фірма 100 мільёнаў расійскіх рублёў (каля $330 тысяч), другая — 50 мільёнаў. «Беларускі бок сам правёў экспертызы і абвясціў, што не дабудавалі. А прапанову сумеснай экспертызы адмовіў. Узялі закладнікаў, а пасля кажуць, што адпусцяць, як толькі фірмы выплацяць грошы».

### Выхадзец з Кіраўніцтва справаў

Аляксандр Кізім — намеснік Саракашыша. Яго прызначылі з Мінска непасрэдна займацца пытаннямі будаўніцтва. Раней ён працаваў начальнікам кантрольна-рэвізійнага аддзела Міністэрства культуры. Затым быў начальнікам упраўлення кантролю і рэвізійнай дзейнасці Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. Бацька траіх дзяцей.

Мы датэлефанаваліся да яго родных у Мінску. Але яны адмовіліся размаўляць пра затрыманне.

### Прывесці ў парадак

21 студзеня пасаду кіраўніка справаў прэзідэнта заняў Віктар Шэйман. Ужо 7 лютага на нарадзе ў Лукашэнкі ён заявіў пра карупцыю ў сваім ведамстве. Шэйман абвінаваціў падначаленых у завышэннях коштаў пры будаўніцтве, фінансавых парушэннях. Асабліва гэта тычыцца таго, што будуюць за мяжой. Меў на ўвазе Сочы?

«Нам трэба скончыць справу, скончыць усе гэтыя будоўлі. Трэба зрабіць усё, каб санаторый у Сочы прывесці ў парадак», — заявіў сам Лукашэнка падчас інспекцыі.

У месцы рэгулярнага адпачынку Аляксандра Лукашэнкі, ягонай фактычнай чарнаморскай рэзідэнцыі, ад 2009 вялося маштабнае будаўніцтва. У ім і могуць хавацца прычыны для замены дырэктара. Як і многія праекты Кіраўніцтва справаў, гэты ажыццяўляўся з мінімумам публічнасці. А дзе няма празрыстасці, там заўжды квітнее карупцыя.

**Сяргея Макарэвіч**

### Вышук



Кіраўскі РАУС расшуквае за ўхіленне ад выплаты падаткаў **Глушакову Надзею Цімафееўну**, ураджэнку вёскі Скрыпліца Кіраўскага раёна. На выгляд ёй 50—55 гадоў.

Хто ведае месцазнаходжанне жанчыны, просьба патэлефанаваць: (02237) 2-42-27, (044) 757-85-33.



**Пакачка Ілья Мікалаевіч** летась адпачываў у Мікалаеўскай вобласці Украіны. Уначы 2 жніўня адміністратару базы адпачынку паведаміў, што яму пагражае небяспека, бо быў сведкам нейкай бойкі. І сышоў. Не выключана страта памяці.

Прыкметы: на выгляд 19—20 гадоў, рост 185 см, валасы цёмныя, на левай руцэ каля лакця шнар ад апёку.

Хто ведае месцазнаходжанне Іллі, просьба патэлефанаваць: (029) 666-68-56.



**Дземідовіч Аляксандр Барысавіч** 19 лістапада 2010 пайшоў на працу. Апошні раз яго бачылі ў той жа вечар у вёсцы Сасновая Смалявіцкага раёна, быў нападпітку.

Прыкметы: на выгляд 50 гадоў, рост 170—175 см, валасы сівыя. Быў апрануты ў шэра-зялёную куртку на маланцы, карычневы швэдар, камуфляжныя штаны, гумовыя боты. Носіць акуляры.

Першамайскае РУУС Мінска расшуквае людзей, хто валодае інфармацыяй пра зніклага. Тэлефанаваць на: (017) 280-02-02, (017) 280-57-21, (029) 656-61-48.

## «Затрэсліся сцены, вокны і пачаўся пажар»

Падчас **выбуху на 9-м паверсе дома** ў Серабранцы загінулі маці і сын.



TUT.BY

Дзясяткі мінчукоў з дома на вул. Пляханава, 85 пераехалі да сваякоў і ў гатэль. Гэта зроблена на той час, пакуль будуць аднаўляцца іх кватэры. Цэлы паверх давядзецца адбудоўваць нанава.

«У момант выбуху мы з сям'ёй знаходзіліся на кухні: затрэсліся сцены і вокны, было нешта накшталт выбуховай хвалі. Я адразу пачуў крыкі аб дапамозе. Суседа заблакавала ў яго дома праз абрушэнне столі. Нашы балконы злучаюцца, ён змог выламаць перагародку паміж імі і пералезці да мяне», — расказаў Аляксандр Рабінскі сайту charter97.org. Яго кватэра размешчаная на дзявятым паверсе — праз адну ад той, дзе быў выбух.

Выбухнула ўдзень 23 лютага ў кватэры ягонага сябра Ігара Трушкевіча, які жыў з маці. Там выратавальнікі і знайшлі два абгарэлыя целы. Яшчэ пяцёра жыхароў пацярпелі нязначна, толькі адну жанчыну шпіталізавалі з атручэннем дымам.

«Практычна адразу полымя перакінулася на балкон суседа. Мы пачалі тушыць яго вёдрамі з вадой, каб не загарэўся наш. Вельмі хутка прыехалі пажарныя. Пажар тушылі як з двара, так і з суседніх кватэр — праз нашу працягнулі шланг з вадой. Людзі выбягалі з пад'езда, некаторых давялося эвакуяваць з дапамогай пажарных лесвіц», — кажа Аляксандр. Каб цалкам патушыць пажар, спатрэбілася амаль паўтары гадзіны.

Адразу загаварылі, што выбухнуў газ. На наступны дзень гэтую версію аспрэчыў мэр Мінска Мікалай Ладуцька. На сустрэчы з жыхарамі дома ён заявіў, што ў найбольш пацярпелых кватэрах два тыдні будуць весці рамонт. А дзявяты паверх перабудуюць нанава. Выратавальнікі пад пагрозай абвальвання сценаў не дазволілі вярнуцца ў свае кватэры жыхарам дзявятага пад'езда і чатыром сем'ям з дзясятага.

У Следчым камітэце, які праводзіць праверку, чакаюць вынікаў экспертызы. І не агучваюць здагадкі.

**Кастусь Матушыч**

# «Не наша тэма»

«Кінавідэапракат» адмовіўся паказваць у Беларусі фільм пра аўтарытарны Іран — **«Аперацыю «Арга»**.

24 лютага кінаакадэмія ЗША ўручыла галоўную кінаўзнагароду — Оскар. Фільмам года быў названы трылер Бена Афлека «Аперацыя «Арга». На жаль, у беларускіх кінатэатрах гэту стужку пра іранскую рэвалюцыю не пакажуць.

«Для фільма проста не знайшлося месца ў сетцы раскладаў, — кажа генеральны дырэктар УП «Кінавідэапракат» Васіль Коктыш. — Мы заключаем дамовы на дэманстрацыі фільмаў за два месяцы, цяпер плануем рэпертуар на май». Ён кажа, што ад «Аргі» адмовіліся, бо «кінатэатры запоўненыя цікавейшымі для гледачоў стужкамі». Хоць Коктыш не выключае, што фільм пакажуць дзе-небудзь у Доме кіно.

Тлумачэнне досыць дзіўнае: і два, і тры месяцы таму было відаць, што за званне галоўнага фільма года будуць змагацца «Лінкальн» Стывена Спілберга і «Аперацыя «Арга» Бена Афлека. І «Лінкальн» у мінскіх кінатэатрах ішоў. А оскараўскія прэм'еры — зазвычай самыя касавыя ў свеце. На іх ідуць нават з простай цікавасці. Тым больш, «Арга» ўжо атрымаў тры прэміі BAFTA, два «Залатыя глобусы», некалькі іншых амерыканскіх кінаўзнагарод.

«Арга» — не наша тэма, яна больш блізкая амерыканцам. Калі б фільм выйшаў разам з сусветным рэлізам, паказы б прайшлі пры пустых залах», — працягвае Коктыш. Дзіўна, чаму ў такім выпадку ў Мінску ідуць такія фільмы на амерыканскія тэмы, як «Вяртанне героя» (пра наркагандляроў, за якімі ганяецца ФБР) і «Цэль нумар адзін» (пра аперацыю па затрыманні бен Ладэна). А ў сакавіку пачнуць дэманстраваць «Кідок кобры» (пра тое, як злодзей пераўвасобіўся ў прэзідэнта ЗША) і суперактуальную для беларускага гледача амерыканскую камедыю «Злаві таўстуху, калі зможаш».



Магчыма, прычына адмовы — сюжэт «Аперацыі «Арга». Гэты трылер Бена Афлека апавядае пра Іран часоў Ісламскай рэвалюцыі 1979. Дзея адбываецца ў Тэгеране. Шэсць амерыканскіх дыпламатаў уцякаюць з разгромленага натоўпам амерыканскага пасольства. Каб уратавацца, амерыканцы пераапранаюцца ў здымачную групу выдуманага фантастычнага фільма «Арга». Аперацыя па іх выратаванні ледзь не зрываецца ў самым канцы: іранская спецслужбы здолелі-такі скласці фота аднаго з дыпламатаў з парэшткаў, якія прайшлі праз машынку для знішчэння папераў...

Галоўныя ролі ў фільме выканалі сам Бен Афлек, Браян Крэнстан, Алан Аркін і Джон Гудмэн.

Рэжысёр змушае суперажываць няўзброеным людзям, якія ратуюць свае жыцці. У фільме паказаныя рэаліі дыктатуры, расстрэлы, гвалт, фанатычны натоўп.

Стужка, сюжэт якой заснаваны на рэальных падзеях, ужо выклікала шал у іранскага кіраўніцтва, рэжысёр Атаала Салманян нават збіраецца зняць у адказ патрыятычны фільм «Генеральны штаб».

Падобны да «Аперацыі «Арга» лёс летась спасціг у мінскім кінапракаце парадыйны фільм Сашы Барона Коэна «Дыктатар» — фільм не быў паказаны праз «нехадоп месца» і наяўнасць «больш вартых» карцін.

**Кірыла Хілько**

**Галівудскія прэм'еры, якія абышлі Мінск**

**«Джоні Д»**

«Кінавідэапракат» у апошні момант адмяніў паказ гангстарскай драмы з Джоні Дэпам праз праблемы з праваўласнікамі.

**«Дыктатар»**

афіцыйна ў Беларусі фільм не забаранялі, а «аддалі перавагу цікавейшым стужкам». Не паказалі фільм і ў Туркменіі, а ў Таджыкістане за дэманстрацыю «Дыктатара» пагражалі штрафам.

**«Адрэналін-2»**

з Джэйсанам Стэтхемам не выпусцілі на вялікі экран праз вялікую колькасць гвалту і сэксу.

**«Код да Вінчы»**

паказ стужкі з Томам Хэнксам і Адры Тату быў спынены пасля чатырох дзён паказу праз «неадназначную рэакцыю вернікаў».

**«Бясслаўныя выродкі»**

Другую сусветную ў інтэрпрэтацыі Квенціна Таранціна беларусы не ўбачылі праз «тэхнічныя прычыны». Як і **«Робіна Гуда»** Рыдлі Скота.

Не паказалі беларусам і **«V значыць Вендэта»**, у якім герой у масцы натхняе на барацьбу з таталітарызмам.

# Самы выбітны беларускі военачальнік ХХ стагоддзя? Станіслаў Булак-Балаховіч



22 лютага 1883 (10 лютага па старым стылі), 130 гадоў таму, нарадзіўся Станіслаў Балаховіч, вядомы як генерал, атаман, бацька Булак-Балаховіч. На маю думку, гэта самы выбітны беларускі военачальнік ХХ стагоддзя. У прыватнасці, Заходняя Беларусь абавязаная дваццаццю гадамі свабоды ад савецкай улады і сталінскага тэрору, хай і ў складзе Польшчы, двум нашым землякам: Люцыяну Жалігоўскаму і Станіславу Балаховічу.

Балаховіч не быў прафесійным вайскоўцам. Такім зрабіў яго час. Ён нарадзіўся ў Мейштах, недалёка ад Відзаў. Вучыўся на агранома, працаваў бухгалтарам на будаўніцтве чыгункі, упраўляючым у маёнтку. На вайну ён з братам пайшоў добраахвотнікам, меўшы ўжо болей за трыццаць гадоў. За ўдзел у Першай сусветнай Балаховіч быў узнагароджаны шасцю расійскімі ордэнамі і трыма салдацкімі георгіеўскімі крыжамі. У грамадзянскую ён праявіў сябе як адзін з самых выбітных камандзіраў на антыбальшавіцкім фронце ў Эстоніі і на Пскоўшчыне.

У лістападзе 1919 Балаховіч са сваім аддзелам, збольшага складзеным з беларусаў, паступіў на службу Беларускай Народнай Рэспублікі, але Рада БНР не знайшла сродкаў, каб яго забяспечваць. Сродкі знайшліся ў палякаў...

У лістападзе 1920, перад падпісаннем Рыжскай мірнай дамовы, што «пасекла наш край папалам», войска Балаховіча здзейсніла апошні паход углыб акупаванай бальшавікамі тэрыторыі. Балаховіч, падтрыманы шэрагам беларускіх вайсковых і палітычных арганізацый, абвясціў сябе Начальнікам беларускай дзяржавы. Балахоўцы вызвалілі ад саветаў частку Усходняга Палесся, але мусілі адступіць пад ціскам мацнейшых сілаў ворага.

Пасля вайны Балаховіч жыў у Польшчы. Загінуў ён у 1940, ад нацысцкай кулі, у акупаванай Варшаве.

Мне асабіста здаецца, што ў час грамадзянскай вайны Булак-Балаховіч быў найбольш рэалістычнай фігурай, аб'яднанне вакол якой магло б даць максімальныя шанцы спробе здабыць Беларусі незалежнасць.

У гэтым чалавеку спалучаліся многія якасці, якіх бракавала і бракуе многім беларускім змагарам-дэмакратам што ў тыя лёсавызначальныя часы, што цяпер. Рэальная ўнутраная сіла, рэальная харызма, здаровыя вытрымка, нясхільнасць да інтэлігенцкай рэфлексіі і адсутнасць сумнавядомай беларускай паразіцкай памяркоўнасці. Добрая доля хуліганства і бесшабашнасці таксама прысутнічала.

Паралельна з гэтым Булак-Балаховіч быў здольны да здаровага кампрамісу акурат з тымі, з кім беларусам, імаверна, тады і трэба было шукаць хаўрусу: з Пілсудскім, з расійскімі белагвардзейцамі, ключавымі антысавецкімі сіламі рэгіёна. Ён і застаўся ў гісторыі як герой адначасова польскі, беларускі і расійска-белагвардзейскі. Ён больш, чым многія, разумеў, што галоўная супольная задача на той момант — перамагчы бальшавікоў.

У бацькі Балаховіча ёсць чаму павучыцца.

**Алесь Чайчыц**

**Апытанне на nn.by**

**Хто, па-вашаму, самы выбітны беларускі военачальнік ХХ стагоддзя?***

**1** Ген. Станіслаў Булак-Балаховіч (нар. Мейшты, пад Браславам) 358 (59%)

**2** Марш. Васіль Сакалоўскі (нар. Козлікі, пад Беластокам) 15 (2%)

**3** Марш. Іван Якубоўскі (нар. Зайцава, пад Горкамі) 29 (5%)

**4** Марш. Юзаф Пілсудскі (нар. Зулаў, пад Вільняй) 152 (25%)

**5** Ген. Гасан Канапацкі (нар. Мінск) 8 (1%)

**6** Ген. Мікалай Чаргінец (нар. Мінск) 48 (8%)

* — у спіс увайшлі ўраджэнцы этнічных беларускіх земляў.






Унікальная калекцыя гравюраў 1863 знайшлася ў Гродне. Калекцыянер Ян Лялевіч мае падшыўку французскага часопіса l'Illustration за 1863 з выявамі, прысвечанымі паўстанню Каліноўскага. Гэтыя 49 гравюр — адзіныя «франтавыя здымкі» з 1863. Сярод паўстанцкіх сюжэтаў — «Выхад паўстанцаў з Гродна», «Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў»... У той самы час у свеце ішлі грамадзянская вайна ў ЗША ды вайна саюзнікаў (Англіі, Францыі, Іспаніі) супраць Мексікі. Батальныя сцэны гэтых канфліктаў і Паўстання ў былой Рэчы Паспалітай стаяць побач, што сведчыць аб вялікім міжнародным рэзанансе, які атрымаў выступ інсургентаў.

**Алесь Кіркевіч**

# «Капыты прымярзаюць да падлогі»

Муж маёй бухгалтаркі, былы вайсковец, аматар перыядычнага ўваходу ў запоі, уладкаваўся працаваць на малочную ферму. На іншых працах не затрымліваўся падоўгу, бо каму трэба работнік, які можа знікнуць на тыдзень-два, а тут прыжыўся.

Жывёла ўтрымліваецца ў страшэннай антысанітарыі, холадзе, у маразы капыты прымярзаюць да падлогі, дзіва што, вароты на ноч завязваюць на вяроўку, палова дойнага статку хворая на мастыт і іншыя хваробы. Жывёла трымаецца выключна на антыбіётыках, пасля такіх уколаў нават лежачыя каровы ўстаюць.

Якой якасці доіцца малако, самі разумееце. Таму калі ўкраінскі нагляд выяўляе ў беларускіх малочных прадуктах павышанае ўтрыманне антыбіётыкаў, мяне гэта не здзіўляе, так яно і ёсць. І самае смешнае, што гэтая ферма знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад любімай рэзідэнцыі кіраўніка краіны ў Астрашыцкім Гарадку, за якія 3 км.

Па родзе сваёй працы (раздробны гандаль) разбіраюся ў малочных прадуктах. Заўсёды, калі наведваю якую новую краму, цікаўлюся асартыментам малочкі, мо з'явіліся якія навінкі, што варта замаўляць і сабе. Не так даўно наведаў Вільню, дзе не быў дзясятак гадоў. Быў моцна ўражаны асартыментам мясцовай малочкі, у 2-3 разы большым чым у Беларусі. І гэта пры тым, што ў нас насельніцтва, напэўна, у 3 разы болей і тэрыторыя значна большая. А калі пакаштавалі з жонкай, дык прыйшлі да высновы, што і якасць літоўская значна лепшая.

**Алесь Буракоў, Мінск**

# Пярэспа

Нядаўна заўважыў, што «Мінсктранс» змяніў назву трамвайнага прыпынку «Камсамольскае возера» на «Пярэспа». Мабыць, ужо ніхто і не памятае, што за «Пярэспа» такая і адкуль такая назва. А «Пярэспа» — гэта адзін з найбольш старажытных раёнаў Мінска. Назву ён атрымаў такую ад ракі Пярэспы, левага прытоку Свіслачы. Рака ў 1975 была зведзена ў падземны ліўневы калектар.

У канцы XIX стагоддзя прадмесце Пярэспа злілося са Старажоўкай і ўвайшло ў рысу горада. У 1941 у раёне Пярэспа створана Камсамольскае возера.

Як кажа народнае паданне, паміж Татарскім канцом (месца на паўночна-заходняй ускраіне Мінска, дзе кампактна, пачынаючы з XVI стагоддзя, пражывалі татары) і Пярэспенскім мастком, каля самага Віленскага паштовага шляху (там, дзе цяпер гасцініца «Беларусь»), калісьці пасяліўся знакаміты волат-знахар па мянушцы Менеск, і пабудаваў ён на рацэ Свіслачы вялікі каменны млын аб сямі колах. Кажуць, ніхто самога Менеска ніколі не бачыў, але па наваколлі свіслацкай зямлі ішлі самыя фантастычныя аповеды аб яго сіле: кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з хлебнага зерня, а з камянёў; што ўначы чуліся там нейкія дзіўныя крыкі, гікі, песні, музыка і скокі; што апоўначы раз'язджаў ён на сваім млыне па дарогах і набіраў дружыну з адважных, смелых, моцных людзей, з якіх пасля ўтвараўся цэлы народ, які стаў сяліцца побач з млынам знахара. А тое месца іх жыхарства і пачало называцца Менеск, а далей Менскам.

Радуе тое, што хоць «Мінсктранс» рупіцца аб беларускіх назвах і захоўвае, хоць бы так, нашу спадчыну.

**Віктусь Вернікоўскі, Мінск**

## Ці ўлада камень

Раз-пораз чытачы жаляцца, што чыноўнікі на беларускамоўны ліст даюць расейскамоўны адказ. Сп. Алег Трусаў з ТБМ вучыць нас, што чыноўнікі абавязаны даваць адказ на мове звароту. Здараецца, што і мне даюць адказ на расейскай мове.

Я адразу ж адсылаю іхні ліст ім назад і патрабую даць мне адказ па форме. Абавязкова падкрэсліваю, што на расейскай мове я не чытаю. (І гэта ісцінная праўда!)

Я заўсёды атрымліваў новы ліст, перапісаны па-беларуску. Нават з сакратарыяту палаты прадстаўнікоў і з камісіі па бюджэце.

Мая выснова такая: з уладай трэба працаваць, рабіць на яе ціск. Яна не бяздушны камень і паддаецца той кроплі, што дзяўбе камень.

Трэба быць больш рагатымі.

**Мікола Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

## Алесь Кіркевіч

* * *

Дай мне дом на каленях Тваіх
Для нашчадкаў хутчэй збудаваць
Дай мне дождж за вакном, што не сціх
Дай мне гэтую ноч не праспаць

Лёд і пырскі вады на трамвайных шляхах
Я пакіну ў грудзях назаўжды
Нават там, дзе ідэі заменяцца ў прах
Сярод праху ўбачыш сляды.

**Удакладненне**

У №5 за 2013 год было памылкова напісана, што мадэльер Саша Варламаў да самагу арышту жыў разам з маці. Насамрэч яна памерла ў 1991. Пасля ён жыў у той двухпакаёўцы ў спальным раёне Мінска адзін. Перапрашаем.

# Чалавек у клетцы як знак беларускага правасуддзя

Клетак у судах няма больш нідзе ў Еўропе. Піша юрыст **Міхаіл Пастухоў**.



Суд над Сашам Варламавым.

**Міхаіл Пастухоў**

Доктар юрыдычных навук, прафесар, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь. Былы суддзя Канстытуцыйнага суда.

Мяне да сэрца зачапіла невялікая нататка Алены Давыдавай «Як сабака...», надрукаваная ў газеце «Народная воля» (№ 11 ад 8 лютага 2013). У якой краіне мы жыв`м, калі ўлады ставяцца да людзей бы да жывёл?

Суд над вядомым мадэльерам Аляксандрам Варламавым, якога на мыліцах заштурхалі ў клетку нібы небяспечнага звера, ускалыхнуў грамадскасць і паставіў на парадак дня пытанне пра тое, колькі яшчэ часу беларуская Феміда будзе здзекавацца з людзей, якія заключаны пад варту і ўтрымліваюцца ў клетках?

Наколькі мне вядома, толькі ў Беларусі з усёй еўрапейскай прасторы захоўваецца такая беспрэцэдэнтная мера засцярогі ў судах.

Расія, якая далей за нас стаіць ад Еўропы, ужо даўно адмовілася і ад смяротнага пакарання, і ад клетак у зале суда (падсудныя агароджаныя ад публікі пластыкавай перагародкай).

Праз «клетку» прайшлі кандыдат у прэзідэнты 2006 Аляксандр Казулін, кандыдаты ў прэзідэнты 2010 Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, палітычныя актывісты, якія бралі ўдзел у падзеях на Плошчы 19 снежня 2010, вядомы праваабаронца, намінант на Нобелеўскую прэмію Алесь Бяляцкі. Цяпер у клетцы апынуўся прадстаўнік багемы, культурны мэтр Саша Варламаў. У жанчыны-суддзі не знайшлося спагады, каб выпусціць гэтага чалавека (інваліда) з жалезнай клеткі...

**Расія даўно адмовілася ад смяротнага пакарання і ад клетак у зале суда**

Што адбываецца ў нашай краіне? Чаму ўлада такая жорсткая? Якое ў нас правасуддзе? Людзей як звяроў трымаюць у клетках. А іншыя людзі — у форме — глядзяць на гэты «звярынец» як на цалкам нармальную з'яву. Але ж «сядзельцы ў клетцы» могуць быць невінаватымі альбо іх віна можа быць недаказаная?!

На абароне правоў гэтых людзей стаіць Канстытуцыя, якая не дазваляе лічыць абвінавачаных (падсудных) вінаватымі ў здзяйсненні злачынства да таго часу, пакуль іх віна не даказаная судом і не пацверджаная прысудам суда, які ўступіў у законную сілу (арт.26).

Такі ж падыход замацоўваецца і ў Крымінальна-працэсуальным кодэксе (арт.16).

Вядома, жалезная клетка ў судзе — гэта ганьба беларускага правасуддзя. Ад гэтага рудымента мінулага трэба пазбаўляцца і як хутчэй.

Аднак прэтэнзіі маюцца не толькі да «клетак». Прадстаўнікам Феміды, якія на 2/3 складаюцца з суддзяўжанчын, трэба змяніць стаўленне да людзей, што паўстаюць перад судом.

Яны — не ахвяры, якім наканаванае асуджэнне. У адносінах да кожнага з іх трэба разабрацца, ці вінаваты ён на самай справе, паслухаць довады не толькі пракурора, але і адваката. І пры любым сумневе ў вінаватасці падсуднага выносіць апраўдальны прысуд, а не прызначаць мінімальнае (умоўнае) пакаранне.

Між тым, лібералізму ў судовай практыцы нешта не заўважаецца.

Як судзілі, так і судзяць. Адзінкі апраўдальных прысудаў пры тым, што кажуць пра дзясяткі палітычных зняволеных. А колькі бязвінных ахвяр правасуддзя пішуць скаргі ва ўсе інстанцыі аб пераглядзе прысудаў?!

Лічу, што нам трэба пазбаўляцца не толькі ад клетак у судзе, але і ад абвінавачага следства і тэндэнцыйнага правасуддзя.

Ці па сілах гэта цяперашнім следчым, пракурорам і суддзям? Адказ на гэтае пытанне дасць прысуд па справе Сашы Варламава.

## ХАКЕЙ

### Кубак надзеі

**2 сакавіка мінскае «Дынама»** правядзе першую гульню Кубка надзеі, сярод каманд, што не трапілі ў плэй-оф КХЛ. Магчыма, што ўваход на «Мінск-Арэну» будзе дармавы. Гуляць будзем з «Спартаком» (Масква).

## КАНЦЭРТЫ

### Да 100-годдзя Сяргея Грахоўскага

**27 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — тэатр аднаго актора «Зніч» з праграмай, прымеркаванай да 100-годдзя Сяргея Грахоўскага.

### НагУаль

**1 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту «НагУаль».

### VuRAJ

**2 сакавіка а 20-й у галерэі/бары Newday (Няміга, 36, уваход праз рэстарацыю Newman)** — канцэрт музычна-вандроўнага аркестрыка казачнага фольку VuRAJ (Вурай).

### Свята дуды ў Гомелі

**2 сакавіка а 19-й у Гомелі ў ГЦК (Ірынінская, 16)** — свята дуды. Бяруць удзел: Зміцер Сасноўскі, Irdorath, «Тутэйшыя», «Гітара-Дуда», клуб гістарычнай рэканструкцыі «Старая Вежа»…

### Tango Emocion

**6 сакавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі** — каралева танга Мора Гадой з новым шоу Tango Emocion.

## ВЫСТАВЫ

### Тапаграфіка

**Ад 7 да 23 сакавіка ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава-праект «Тапаграфіка». Хатнія тапачкі мы носім не напаказ, а для сябе, а значыць, можам быць па-сапраўднаму шчырымі ў выбары. Дызайнеры ўсяго свету надаюць шмат увагі аксесуарам — дык чаму б не звярнуць увагу і на гэты прадмет гардэроба?

### Над каменем

**Да 7 сакавіка ў галерэі «Акадэмія» Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (Сурганава, 14)** працуе выстава эстампаў Марыны Мароз «Над каменем». Праца ў матэрыяле (так называюць друкаваныя графічныя тэхнікі) — гэта заўсёды асаблівы вопыт. Эскіз, перакладзены ў матэрыял, набывае новае гучанне, становіцца больш важкім, грунтоўным.

### Маляўнічае гістарычнае Палессе

**Да 17 сакавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12) працуе выстава «Маляўнічае гістарычнае Палессе».** Акрамя дзясяткаў разнастайных пейзажаў, напісаных з натуры пад моцным уражаннем ад мясцінаў гэтага краю, выставу складаюць прадметы, якія распавядаюць пра гісторыю, побыт, звычаі і заняткі жыхароў гэтага краю.

### Кастусь Каліноўскі

**27 лютага а 17-й на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13)** — адкрыццё мастацкай выставы, прысвечанай юбілею Кастуся Каліноўскага.

### Уладзімір Цэслер «Практыка рынкавага рэалізму»

**Да 2 сакавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Практыка рынкавага рэалізму» Уладзіміра Цэслера. Выстаўка прадстаўляе жывапіс, скульптуру, арт-аб'екты У.Цэслера і іншыя праявы ягонай крэатыўнасці і схільнага да парадоксаў мыслення.

### Мае праведнікі

**Да 3 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Анатоля Клешчука «Мае праведнікі», прысвечаная беларусам, якія ў гады Другой сусветнай вайны ратавалі габрэяў ад фашыстаў.











## БАСКЕТБОЛ

### Матч усіх зорак

**3 сакавіка ў Палацы спорту** адбудзецца матч усіх зорак беларускага баскетбола. Легіянеры супраць беларусаў. А 14 згуляюць жанчыны, а праз дзве гадзіны мужчыны. Уваход вольны. Чакаюцца конкурсы і розыгрыш прызоў.

## ТЭАТРЫ

### 28 лютага

**Оперы і балета** — «Анюта»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»

### 1 сакавіка

**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

### 2 сакавіка

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»

### 3 сакавіка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

### 4 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

### 5 сакавіка

**Оперы і балета** — «Серэнада. Кармен-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 6 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 7 сакавіка

**Лялек** — «Асцярожна, свіння!
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 9 сакавіка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 10 сакавіка

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Кашчэй Бессмяротны. Палавецкія скокі»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

## КІНО

### Каго любіў майстар страху

**Хічкок** (Hitchcock)
ЗША, 2012, каляровы, 98 хв.
**Рэжысёр:** Саша Джэрвезі
**Ролі выконваюць:** Энтані Хопкінз, Хелен Мірэн, Скарлет Ёхансан, Дэні Х'юстан, Тоні Колет, Джэсіка Біл, Джэймс Д'Арсі
**Жанр:** Біяграфічная драма
**Адзнака:** 7 (з 10)

1959 год. Рэжысёр Альфрэд Хічкок на вяршыні славы. Але калі творца вырашае паставіць фільм у новым для сябе стылі, студыя і чуць нічога не хоча. Тады Хічкок закладае дом і бярэцца за эксперымент, які назаўжды зменіць кінематограф.

Фільм Сашы Джэрвезі — цёплая біяграфічная драма. Карціна засяроджваецца толькі на адным эпізодзе ў жыцці героя. Але гэты эпізод — здымкі знакамітага «Псіха». У фільме дакладна пяшчотна ўзноўленая атмасфера тых часоў, студыйныя спрэчкі. Але стужка — гэта гісторыя любові. Альма Рэвіль доўга заставалася ў цяні свайго геніяльнага мужа. Фільм аднаўляе справядлівасць: Альма Рэвіль (сыграная Хелен Мірэн) і Альфрэд Хічкок (Энтані Хопкінз) — раўнапраўныя партнёры. Стужка багатая на хічкокаўскія розыгрышы.

«Хічкок» — гэта гісторыя простых людзей, якія ўмелі дырыжыраваць эмоцыямі.

**Андрэй Расінскі**



1 сакавіка

# Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца

хто стане лаўрэатам?

















## Цырымонія ўручэння

**Crown Plaza (Кірава, 13)**

# 18.30



Літаратурная прэмія Гедройца заснаваная ў 2011 Беларускім ПЭН-цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Амбасадай Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь і Польскім інстытутам у Мінску. Прысуджаецца штогод за найлепшую кнігу на беларускай мове ў жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка».

Сярод узнагародаў — грашовы прыз (летась ён складаў каля 105 мільёнаў рублёў), магчымасць выдаць кнігу ў Польшчы, літаратурныя стыпендыі і запрашэнні ў еўрапейскія дамы творчасці.

Падрабязней на сайце прэміі **gedroyc.by**

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь УНП 101184926

# Першая мінская «Мова ці кава» сабрала сто чалавек

Бясплатныя беларускамоўныя курсы будуць штотыднёвымі.

Журналістка расійскага Першага канала, беларуска Кацярына Кібальчыч 18 лютага арганізавала ў Мінску першы занятак бясплатных моўных курсаў «Мова ці кава».

Кавярня «Дом Фішэра» аказалася няздольнай змясціць усіх ахвотных, таму давялося шукаць большае памяшканне. І хоць некаторыя даведаліся пра змену лакацыі ўжо на ўваходзе ў «Дом Фішэра», у першай сустрэчы ўзялі ўдзел каля 100 чалавек.

Праводзіць заняткі ў Мінску будуць філолаг Алеся Літвіноўская і журналіст Глеб Лабадзенка. На ўрачыстае адкрыццё са сталіцы Расіі прыехаў акцёр Васіль Дранько-Майсюк, які праводзіць «Мову ці каву» ў Маскве.

«У нагах праўды няма, таму запрашаю ўсіх прысесці», — пачаў вечар Глеб Лабадзенка. «Хто не сеў, хай сядзе...» — зала гучна зарагатала. «Ну добра, хай прысядзе, выражаючыся больш метафарычна».

Лабадзенка аказаўся цудоўным вядучым. Ён трымаў увагу аўдыторыі на працягу ўсяго вечара, бесперапынна жартаваў і запаўняў няёмкія паўзы.

Васіль Дранько-Майсюк з уласцівым яму артыстызмам матываваў сабраных: «Пасля маскоўскіх заняткаў нават афіцыянты ў кавярні вывучылі мову! Падыходзяць, пытаюцца: «Вам гарбату ці каву?» Каб запэўніць, што мову можна вывучыць у любым узросце, Дранько-Майсюк прывёў прыклад беларускага філосафа Валянціна Акудовіча, які «да 30 гадоў увогуле не размаўляў па-беларуску, але пасля пяцігадовай практыкі пачаў размаўляць лепш, чым хто».

Навічкі-студэнты, як і нованароджаныя, адразу атрымалі ласкавае беларускае імя. Уладзіміры сталі Уладзямі, Адэлаіды — Адэлямі, Вольгі — Вальжынамі. Алеся Літвіноўская расказала гісторыю пра тое, што насампраўды яна з'яўляецца першай «сапраўднай» Алесяй у Беларусі, бо яе бацька калісьці «выбіў» у савецкіх чыноўнікаў права афіцыйна запісаць імя дачкі з першай літарай «а» — у спісах імёнаў народаў СССР яно пісалася праз «о».

Пасля «сумоўнікі» разбіліся на пары і высвятлялі адно ў аднаго, хто яны і што прывяло іх на «Мову ці каву». Людзі на занятак прыйшлі розныя: былі і студэнты, і маркетолагі, і супрацоўніца анкалагічнага цэнтра, і беспрацоўныя, і журналісты, і нават чалавек, які займаецца капаннем калодзежаў.

Гісторыі і матывацыі ў гэтых людзей таксама самыя разнастайныя: нехта можа сказаць па-беларуску толькі некалькі словаў, бо не вучыў мовы. Нехта паходзіць з беларускамоўнай сям'і і размаўляе па-беларуску ўсё жыццё. Большасць ведае мову, але незадаволена ўзроўнем сваіх ведаў.

«Я размаўляю па-беларуску не так даўно. Я разумела, што па-англійску размаўляю лепш, чым па-беларуску. Таму пачала шукаць для практыкі суполку, не звязаную з якой-небудзь палітычнай дзейнасцю», — расказвае Марыся, журналістка. З Марысяй на занятак прыйшла сяброўка Кася, біёлаг. «Мне сорамна, што я ведаю беларускую так дрэнна, таму сёння я тут», — кажа яна.

Геаграфія ўдзельнікаў таксама шырокая — хтосьці жыве не ў Мінску, хтосьці «разрываецца» паміж некалькімі краінамі. Але ў зале прысутнічалі не толькі еўрапейцы — удзельнічала ў «Мове ці каве» і японка (прычым беларускамоўная японка!) Сіёры, якая раптам ператварылася ў Зоську.

«Я навучаюся ў магістратуры ў Японіі. Цягам ужо 10 месяцаў вучу беларускую і рускую ў БДУ — мая магістарская праца прысвечана даследаванню моўнай сітуацыі ў Беларусі. Але мне няма з кім практыкавацца ў беларускай мове», — кажа Сіёры-Зоська.



Вучыцца беларускай мове ніколі не позна.

Калі вы хочаце звязацца з арганізатарамі курсаў «Мова ці кава», рабіце гэта праз суполку ў Facebook — www.facebook.com/MovaCiKava.

Пасля знаёмства былі агучаны асноўныя правілы «Мовы ці кавы»: размаўляць толькі па-беларуску; прыязна і талерантна ставіцца адно да аднаго; не чапаць на занятках палітыкі; дапамагаць адно аднаму.

Слухачы прапанавалі і шэраг сваіх правілаў. Напрыклад, выключаць на занятках гук тэлефонаў, а са спозненых «спаганяць» беларускі верш.

Ніякіх хатніх заданняў не будзе. Адзінае, што павінны рабіць вучні — дзяліцца цікавымі навінамі і падзеямі.

Рэшты часу хапіла на кароткі агляд будучых урокаў, цікавыя гістарычныя звесткі пра мову, некалькі вясёлых практыкаванняў і моўную гульню.

Было відаць, што «мовацікаўцы» з радасцю вытрымалі б яшчэ адзін 90-хвілінны занятак. Пасля першай сустрэчы незадаволеных не засталося.

Пакуль людзі разыходзіліся, Алеся Літвіноўская падзялілася з «НН» сваімі чаканнямі. «Хацелася б, каб такія курсы ўслед за Мінскам адкрыліся і ў абласных цэнтрах Беларусі», — спадзяецца яна.

Што тычыцца парады дасведчанага педагога, як пачаць размаўляць па-беларуску ў паўсядзённым жыцці, Літвіноўская цытуе Алега Трусава: «Лупіце на трасянцы! Я ўжо казала гэта сёння. Проста пачынайце размаўляць! З цягам часу памылкі выправяцца. І ні ў якім разе не саромецца!»

Курсы «Мова ці кава» — выдатная магчымасць перастаць саромецца.

Да таго ж нязмушаная, сяброўская атмасфера настройвае на пазітыўны лад, якога так часта бракуе ў нашым знерваваным жыцці.

**Кірыла Хілько**

Тэхналогіі

## «Белтэлекам» запусціць для сваіх кліентаў аналаг Skype

Паслуга будзе прывязаная да нумара тэлефоннай сеткі.

Дзяржаўны манапаліст «Белтэлекам» вырашыў запусціць сэрвіс eSpace, аналагічны вядомай праграме Skype. З дапамогай Skype можна бясплатна размаўляць з сябрамі ў любой кропцы свету праз інтэрнэт, у тым ліку і прымаць і перадаваць відэакарцінку. За невялікую плату можна званіць на стацыянарныя і мабільныя тэлефоны. Skype лічыцца адной з самых бяспечных праграм, размовы дагэтуль не можа праслухаць ніводная спецслужба свету.

Беларуская праграма, якая мае запрацаваць ужо сёлета, будзе прывязаная да нумара стацыянарнай тэлефоннай сеткі. З дапамогай сэрвісу кліенты будуць размаўляць, аплачваючы не тэлефоннае злучэнне, а аб'ёмы перададзенага трафіка. Беларускі eSpace будзе даступны толькі абанентам «Белтэлекама». Пра ступень абароненасці інфармацыі ад праслухоўвання не паведамляецца.

**ЯМ**

**Без радыёкропкі**

У Беларусі да канца 2014 года будзе адключана правадное радыёвяшчанне. Адключэнне пачнецца з Гродзеншчыны і Міншчыны.

## У Расіі электронную пошту прывяжуць да хатніх адрасоў

Праект каштуе каля мільярда даляраў.

«Пошта Расіі» папрасіла 31,1 мільярда рублёў (каля мільярда даляраў) з федэральнага бюджэту на стварэнне дзяржаўнай электроннай пошты для ўзаемадзеяння грамадзян з чыноўнікамі.

Сістэма мае запрацаваць праз тры гады і забяспечваць 100 мільёнаў карыстальнікаў. Мяркуецца, што грамадзяне атрымаюць афіцыйныя электронныя адрасы. Гэтая электронная пошта будзе служыць для перапіскі з прыватнымі асобамі і арганізацыямі і для перасылкі юрыдычна значных дакументаў. Напрыклад, позву з ваенкамата дастаткова будзе даслаць па інтэрнэце. Абавязкам прызыўніка будзе атрымаць яе своечасова.

**ЯМ**

Сціісла

### Уведзеныя палёгкі беларусам, што наведваюць Балгарыю

Беларусы, якія ў 2012 годзе наведвалі Балгарыю па турыстычнай, гасцявой, бізнес-візе або як уласнікі нерухомасці, могуць ад 15 лютага да 31 снежня 2013 года атрымаць шматразовую кароткатэрміновую візу тэрмінам на год. Гэта не распаўсюджваецца на малалетніх і непаўналетніх дзяцей, якія едуць у Балгарыю без бацькоў.

### Карэец скраў $4 мільёны і зрабіў пластычную аперацыю

35-гадовы карэец Юн абвінавачваецца ў незаконным пералічэнні сродкаў з рахункаў фірмы па вытворчасці электронікі, у якой ён працаваў, на шэсць засакрэчаных банкаўскіх рахункаў. Ён набыў «Мерсэдэс», а таксама бавіў час у дарагіх клубах. Пасля Юн зрабіў аперацыю на носе і падцяжку твару, каб яго не пазналі.

### У Новай Зеландыі жанчына памерла ад перадазіроўкі Coca-Cola

30-гадовая маці васьмярых дзяцей Наташа Харыс штодня выпівала 10 літраў «Колы», што перавышае не толькі нормы разумнага, але і ў 11 разоў вышэй штодзённай нормы цукру. Калі яна не піла «Колы», у яе пачыналася сапраўдная ломка. Незадоўга да смерці ў жанчыны парушыўся сардэчны рытм і выпалі ўсе зубы.

**ЯМ**




**БАТЭ не выйшаў у наступны раўнд Лігі Еўропы. Адзіны гол футбалісты турэцкага «Фенербахчэ» забілі прыканцы першага тайма з пенальці. Гульня праходзіла пры пустых трыбунах, але фанаты далі пра сябе знаць. У пачатку другой паловы гульні на поле з-за сцен паляцелі фаеры. Адзін ледзь не трапіў у лаву запасных «Фенербахчэ».**



**Мітынг у Ерэване кандыдата ў прэзідэнты Рафі Аванісяна сабраў каля 10 тысяч чалавек. Паводле афіцыйных лічбаў, дзейны прэзідэнт Серж Саргсян атрымаў перамогу яшчэ ў першым туры, яму напісалі 58% галасоў. Ягоным супернікам быў народжаны ў ЗША былы міністр замежных справаў Рафі Аванісян (36%).**



**Мабыць, з прычыны недахопу грузавых і снегаўборачных машын гомельскія камунальнікі грузяць прыбраны снег і пазбіваную наледзь у «Газель».**



**У Швейцарыі быў забіты трохгадовы мядзведзь, які лічыўся адзіным дзікім прадстаўніком свайго біялагічнага віду ў краіне. Звера, вядомага як М13, застрэлілі паводле рашэння ўладаў. Прычынай стала тое, што мядзведзя палічылі небяспечным для людзей. На фота той самы мядзведзь.**

## Анекдоты і жарты

* * *

У Беларусі справядлівы суд. Калі невінаваты — шмат не дадуць.

* * *

Рабіновіча ўкусіў губернатарскі сабака, і ён падаў у суд на губернатара.

Пасля суда яго сустракае Ізя:

— Ну як, ты дабіўся справядлівасці?

— Ізя, ты не ўяўляеш, сведкі і экспертыза даказалі, што гэта я ўкусіў тую аўчарку!

* * *

Кватрплата вырасла, электраэнергія, бензін падаражэў.

Добра, што заробак не павысілі. Хоць нейкая стабільнасць.

* * *

Вось амерыканцы пасля падзення Чэлябінскага метэарыта вельмі здзівіліся, што амаль у кожнай расійскай машыне ёсць відэарэгістратар. Яны яшчэ пра бейсбольныя біты не ведаюць.

* * *

З мэтаю актывізацыі вытворчасці аўтамабіляў у Расіі павысяць хуткасць на дарогах.

### Гавораць дзеці

Альжбета вельмі любіць слухаць Шэрыл Кроў (якую ўпарта працягвае называць Шэрая Кроў). Слухае яна, слухае і неяк кажа:

— Мама, а ведаеш, Шэрая Кроў толькі спявае па-англійску, а з мужам дома размаўляе па-беларуску.

— Ты так думаеш?

— Ну трэба ж камусьці і англійскую мову падтрымліваць.

**Аксана Спрынчан**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Камянец. Брэсцкі павет.** Сын гаспадара Патокі ўлюбіўся ў дзяўчыну, каторая была служанкай у жыдоўскага рабіна. Хлопец хадзіў да яе часта, але бацька лаяў за гэта яго. Адзін раз, калі сын вярнуўся ад дзяўчыны на раніцу, бацька яго добра прабраў за гэта; сын на другую ноч пайшоў да рабіна на ганак і павесіўся.

**«НН». №9. 1913.**

**На Дзясятым Мінскім міжнародным кніжным кірмашы** беларускамоўнай літаратуры бракавала. Затое ад расейскамоўнай угіналіся сталы. Самы цымус — дзве новыя кнігі прозы Васіля Быкава, выдавецтваў «Эксмо» і «Вагрыус». «Эксмо» апублікавала зборнік твораў Быкава ў серыі «Чырвоная кніга расейскай прозы».

**«НН». №8. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8040. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 26.02.2013.
Замова №683.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12